зваленьне“ Заходняй Беларусі і зьяднаньне яе з БССР, бальшавіцкая прапаганда гаворыць таксама вельмі мала, хоць польская прэса шырока адзначыла 30-ыя ўгодкі 1 верасьня. Але, пра ролю Масквы ў гэтых падзеях і палякі не сказалі ні слова. Не сказалі яны ні слова і пра тое, як яны, разам з Гітлерам, напалі на Чэхаславакію.

А сьвет пра гэта павінен ведаць!

* * *

*ЮРКА ВІЦЬБІЧ.*

# Там, дзе сумуе Чорная дама.

Старадаўні беларускі, ахутаны паданьнямі Нясьвіж — горад Сымона Буднага й Уладыслава Сыракомлі. Упяршыню ён згадваецца ў 1223-м годзе, калі князь Хведар Нясьвіскі загінуў у бітве з татарамі на рацэ Калцы. Хто толькі з чужаземцаў не спусташаў Нясьвіжа? Не аднойчы расейцы й асабліва князь Хаванскі ў 1569-м годзе, у 1706-м яго зьнішчылі шведы, у 1812-м — французы, у 1941-м — немцы. І кожны раз Нясьвіж адраджаўся ды наўсуперак усім злыбядам ішла аб ім пагалоска па ўсёй краіне.

Тут у 1562-м годзе Сымон Будны выдаў свой „Катэхізыс“, у прысьвячэньні да якога раіў князям Радзівілам, каб яны „не только в чужаземских языцех кохали“, але й любілі родную беларускую мову. У багатай бібліятэцы тутэйшага замку, што налічвала 20 тысяч тамоў, шмат іх было пабеларуску. У замкавым архіве перахоўваліся дакуманты зь гісторыі Літвы. У тым-жа замку, побач з гэтманскімі булавамі й маршальскімі ляскамі Радзівілаў, красавалася вялікая калекцыя золататканых Слуцкіх паясоў, гэтак добра апетых Максімам Багдановічам. Тут, у Нясьвіжы набываў асьвету зьбяднелы шляхціч Людвіг Кандратовіч — ён стаўся потым шырака знаны як польскі й беларускі паэта Ўладыслаў Сыракомля. І тут-жа скончыў настаўніцкую сэмінарыю Якуб Колас.

Да росквіту Нясьвіжу спрычыніліся магнаты Радзівілы, якія ў 16-м стагодзьдзі абралі яго сваёй рэзыдэнцыяй. Гэта іхнім коштам пабудаваныя велічны замак з прыгожым палацам, прывабны фарны касьцёл, цудоўная ратуша, чароўная Слуцкая брама і г.д. Аднак гэта беларусы склалі Радзівілам іхняе багацьце, аддавалі ім сваё здатнасьці, цесьлявалі й муравалі, абмываючы ўсе гэтыя будынкі сваімі потам і сьлязьмі, ад якіх, як сьцьвярджае народнае паданьне, пацякла з Нясьвіжчыны да бацькі Нёмана рака Вуша. Але ўсё-ж некаторыя з Радзівілаў ужо пачыналі разумець скуль яны паходзяць ды каму забавязаныя. І тут згадваецца сьветлая постаць княгіні Магдалены Радзівіл, што падтрымлівала нашых нацыянальных дзеячоў, а калі яе называлі полькай, дык заўсёды адказвала:

— Не! Я — беларуска.

Бадай найбольшай аздобай Нясьвіжу зьяўляецца ягоны палац з прыгожымі вежамі па бакох, адну зь якіх вылучае гадзіньнік з курантамі. Пабудаваны ён у 1583-м годзе за часы князя Мікалая Радзівіла-Сіроткі італійскім архітэктарам Янам Марыяй Бернардоні ў стылі рэнэсанс. Ягоныя 12 вялізных заляў уяўлялі зь сябе музэй, роўнага якому ня мелася больш нідзе на Беларусі. Некалі тут перахоўваліся 30 масяндзовых рыцарскіх узбраеньняў і шмат рознае старадаўнае амуніцыі. Бібліятэку аздаблялі вялікія бюсты грэцкіх філязофаў, зробленыя беларускімі майстрамі з фаянсу на гуце ў Сьвержні. Тут-жа меліся 12 сярэбраных статуяў апосталаў, адлітаваных таксама ў тутэйшых гамарнях. У мастацкай галярэі былі выдатныя малюнкі славутых мастакоў італійскай і флямандзкай школаў. Сьцены ўпрыгожвалі габэлены, вытканыя на фабрыцы ў Карэлічах. І нічога з гэтага тут больш не засталося. Хіба вылучэньнем зьяўляецца прыгожая агарожа, выкутая тутэйшымі Паўлюкамі Багрымамі з жалеза, здабытага з балотнай руды Налібокаў.

Зь іншых помнікаў Нясьвіжу варта перадусім прыгадаць фарны касьцёл з цудоўнымі фрэскамі, пабудаваны ў 1584-м годзе пры тым-жа князю Сіротку і тым-жа архітэктарам Бернардоні ў стылі раньняга барока. Заслугоўвае вялікае ўвагі тады-ж пабудаваная ратуша з гандлёвымі будынкамі, што складаюць зь ёю суцэльную кампазыцыю. Незабывальнае ўражаньне спакідае барокавая Слуцкая брама, аднаўленая ў 1760-м годзе. І шмат што кажа беларускаму сэрцу двухпавярховы белы дом, у якім калісьці месьцілася друкарня Сымона Буднага.

Аднак ашуканым станецца той, хто дасьць веры А. Косачу і Б. Хацько, якія ў сваёй кніжцы „Нясьвіж“ (Менск, 1962 г.) сьцьвярджаюць, што „За пэрыяд нямецкай акупацыі ў 1918-м годзе й за часы Вялікай Айчыннай вайны ўсе творы мастацтваў з палацу былі арабаваныя“. Ня мелася ўжо чаго рабаваць. Яшчэ генэралам царыцы Кацярыны Другой закідалася, што ў 1791-м годзе яны вывезьлі адсюль найбольш для іх цікавае, тое-ж паўтаралася й пасьля паўстаньня 1863-га году. Толькі нязначная частка забранага была зьвернутая назад паводля Рыскага трактату. А рэшту вывезьлі зь Нясьвіжу ў музэі Масквы пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да СССР у 1939-м годзе. Нават 102 дубовыя ацынкованыя труны ў скляпеньні фарнага касьцёлу былі адкрытыя, каб у памерлых набальзамаваных Радзівілаў забраць іхнія залатыя крыжы.

Засталіся цяпер толькі архітэктурныя помнікі, і мы шчыра цешымся, што яны ўзятыя пад дзяржаўную ахову, але разам з тым засмуціліся, калі з артыкулу „Народны скарб“ („Літаратура і Мастацтва“ ад 24-га сьнежня 1968-га году) дазналіся, што: „Нават на Ўсесаюзнай нарадзе па рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры і мастацтва ішла гаворка аб „ляпах“, дапушчаных у Нясьвіжы. Асабліва многа бязгустоўшчыны і адсебяціны праявілася ў рамонце Слуцкай брамы. У палаца-замкавым камплексе Радзівілаў многія росьпісы забелены і зьверху накатаны трафарэтны ўзор, а некаторыя так „падноўлены“, што ад мастацтва нічога не засталося“.

У спустошаных залях палацу з 1945-га году знаходзіцца санаторыя для лячэньня ад сардэчных і нэрвовых захворваньняў. Для паслугаў хворых тут ёсьць водалячэбныя працэдуры, як і электра, сьвятло і гразелячэньне. І ўсё гэтае надзвычай добра, але на іншым месцы, а не ў каштоўным помніку гісторыі й архітэктуры. Прынамсі, ці наўрад хто, напрыклад, з французаў, расейцаў ці немцаў парушыць пытаньне аб ператварэньні палацаў Вэрсалю, Пэтэргофу й Патсдаму ў звычайныя шпіталі. І хочацца таму думаць, што неўзабаве палац у Нясьвіжу станецца вылучна музэем, у які будзе зьвернута ўсё, зь яго пазабранае. Бо, як зусім слушна заўважыла Галіна Карпава ў артыкуле з сэрыі „Ахове помнікаў — сілу закона“ („Чырвоная зьмена“ ад 18.9.69 г.): „Трэба зрабіць, каб Мір, Нясьвіж, Навагрудак, Браслаў мы з гордасьцю маглі паказаць нашым гасьцям!“

І, нарэшце, ня можна цалкам зразумець Нясьвіж, амінуўшы высокі, чорны гранітавы абеліск „Чорнай дамы“ у ягоным прыгожым старым парку, што ўзяты цяпер пад дзяржаўную ахову, як помнік прыроды. Ён прысьвечаны князёўне Марыі Радзівіл, аб якой народ стварыў мноства паданьняў. Яна, дачка магната, пакахала беларускага хлапца, тутэйшага канюха. Яго забілі за гэтае, а яна неўзабаве забіла сябе, выкінуўшыся з вакна Гэтманскае залі на брук. Але не супакоілася гаротная Марыя і ў сямейным склепу ў фарным касьцёле. Час ад часу, калі куранты на замкавай вежы абвесьцяць поўнач, кабета ў жалобнай чорнай вопратцы ходзіць па вуліцах Нясьвіжу. Нават сьмерць не перамагла ейнае каханьне. Дагэтуль сумуе Марыя і шукае свайго любага.



І. К.

# ПАГІБЕЛЬ БЕЛАРУСКАГА АРХІВУ

*(Паводле Г. Калодзія, вугонага-географа).*

Князь Раман Сангушка, апрача валоданьня рознай маёмасьцю на Беларусі, быў собсьнікам вялікага палацу ў Падгорцах, павету Брады, Львоўскага ваяводзтва. Гэты палац збудаваў сабе ў 17-ым стагодзьдзі Ян Сабескі, кароль Рэчыпаспалітай Польскай, ведамы пераможца над туркамі пад Венай у Аўстрыі.

Сам князь Сангушка меў выгляд беларускага вясковага дзядзькі, добра гутарыў пабеларуску, любіў выпіць чарку гарэлкі і тады сьпяваў беларускія народныя песьні, як „Каліна-маліна“ і інш. Ён лаяў палякаў за іх неразумную нацыянальную палітыку ў дачыненьні да беларусаў і іншых нацыянальных меншасьцяў.

Перад Другой Сусьветнай Вайной палац у Падгорцах быў даступны для турыстых. Князь

жыў пераважна ў Лёндане і толькі раз у год наведваў гэтую рэзыдэнцыю.

У палацы перахоўвалася шмат гістарычных каштоўнасьцяў, здабытых Сабескім ад туркаў, як: палатка вялікага візіра, старажытная зброя і г. д. Тут была арыгінальная мэбля і абсталяваньне з часоў Сабескага, улучна з туфлямі ягонай жонкі. У палацы была галерэя вялікіх маляваных партрэтаў роду Сунгушкаў ды сваякіх з ім іншых магнацкіх родаў з Беларусі, гэтманаў, ваяводаў, каштэлянаў і г. п.

Вялікую залю ў палацы займаў архіў старадаўных рукапісаных дакумантаў. Гэтыя рукапісы на пэргамэнце былі сшытыя ў вялікія кнігі, апраўленыя ў цяжкія вокладкі з мэталёвымі абрамаваньнямі й засьцежкамі. Тут была перапіска (ліставаньне) Сангушкаў, Радзівілаў, Браніцкіх і іншых беларускіх магнатаў паміж сабой, акты прадажы маёмасьці — вёсак з сялянамі і г. д. Лісты былі пераважна з маёмасьцяў у заходніх частках Беларусі, як Пружаны, Баранавічы і г. д.

Старэйшыя дакуманты былі на беларускай мове з дамешкай царкоўна-славянскай і былі пісаныя кірылічнымі літарамі. Пазьнейшыя дакуманты былі таксама на беларускай мове, але мелі дамешку польскіх словаў, і былі пісаныя кірылічнымі літарамі з дамешкай лацінскіх літараў. Пазьнейшыя дакуманты, аж да часу заваяваньня Беларусі ў 1795 годзе Расеяй, былі на беларускай мове, з большай дамешкай польскіх словаў, а пісаныя былі лацінскімі літарамі.

Характэрна, што беларускія магнаты да канца існаваньня Вялікага Княства Літоўскага захавалі беларускую мову, чым карысна адрозьніваліся ад магнатаў з Украіны, якія адразу-ж пасьля акаталічаньня пакінулі сваю мову і перaключыліся на польскую.

З навейшых матар'ялаў у архіве былі рукапісныя зборнікі беларускіх народных песьняў, якіх было даволі шмат.

Архіў перахоўваўся з вялікім піэтызмам і быў у поўным упарадкаваньні. Меўся адмысловы архіварыюс Івашчык, украінец, які меў традыцыйны вонкавы выгляд — доўгія вусы і насіў даўняга фасону вопратку.

У верасьні 1939 году арміі Савецкай Расеі акупавалі Заходнюю Беларусь і Украіну. У палацы ў Падгорцах разьмясьціліся часткі савецкай арміі. У гэтым часе палац наведаў Тарнавській, савецкі спэцыяліст ад архіваў з Кіева. Ён быў украінец па паходжаньню. Запазнаўшыся з архівам, ён не знайшоў там нічога ўкраінскага, але сказаў: „Вось тут быў-бы пір для беларусаў!“

Зіма з 1939 на 1940 год была вельмі сьцюдзёнай. Савецкія вайскоўцы ўжывалі архіўныя матар'ялы на падпалку дроў у печах палацу, а нават і як звычайнае паліва. Такім чынам у палацы было зьнішчана ўсё, што мела паліўныя і іншыя бытавыя ўласьцівасьці. Ад архіву не засталося і сьледу.

Трэба адцеміць, што ваенных дзеяньняў ня было аж да 22 чэрвеня 1941 г. Зьнішчэньне архіву адбылося ў звычайны, спакойны час. Насоўваюцца пытаньні:

1. Ці гэты вандалізм быў выразам звычайнага стану мангольскай дзікасьці самога мясцовага вайсковага кіраўніцтва?

2. Ці зьнішчэньне беларускіх гістарычных каштоўнасьцяў было выканана па тайнаму загаду з Масквы ў пляне вынішчэньня карэньняў беларускага нацыяналізму і толькі завуалявана нібы абставінамі ваеннага часу?

*Масей Сяднёў.*

### ЗЯМНЫ МОЙ ЛЁС

То ўскрэсьне, то запаліцца, то згасьне
то заімжыць...
Гляджу цяпер назад і бачу ясна —
ня ўмеў я жыць.
Ад часу, калі пугай яшчэ ляскаў
і ў полі рос,
глядзеў я зь незямною ласкай
у глыбіню нябёс.
І там тануў мой зрок і сам я.
І я, і статак — як плылі.
Здавалася — нябёсы ёсьць таксама
і на зямлі.
Ды на зямлі было усё зямное
і ня было нябёс.
Сьцярог мяне, стаяў за мною
зямны мой лёс.
Ён так падбаў і так ўсё зьісьціў,
зямны мой лёс,
што ўжо пабачыць, як калісьці,
я не магу нябёс.

1967 г.



### АНЁЛ

Упяршыню пабачыў гэта быццам:
над вуліцай — вось зваліцці на дол —
высока на слупе у золаце зіхціцца,
зьлятаючы да нас, анёл.

І ў постаці маўклівай і балеснай,
Збавіцель наш і Спас,
Ён з вышыні той паднябеснай
крыламі атуляе нас.

Працягвае да нас анельскія Ён рукі,
і нам здаецца на зямлі —
Ён выстаўляе свае рукі,
каб мы яго адтуль зьнялі.

І Ён сумуе сумам чалавечым,
і, здэцца, не збаяўся-б Ён ані
плашмя ударыцца, абы ня вечна
зіхцець у золкай вышыні.

1968 г.

### ВОСЕНЬ

Навеяла ў садзе лістоў
восень — жоўтая веялка.
А за садам над рэчкаю стог
нібы апусьціў павекі.

Сьляпымі ўглядаецца вачмі
у страчанае лета.
І мне хацелася сказаць: — Ачнісь!
Забудзь пра гэта!

Завялі краскі й трава
і поле восеньню зжата.
Нядоўга час трываў,
навальніцамі багаты.

Радасьць прайшла ля весьніц
з кошыкам суніц...
З чорнага гальля на ўзьлесьсі —
зябкае цыўканьне сініц.

Засумавалі, азглелі сады.
Пад нагамі шамоча лісьце.
Быццам усё тут назаўсягды
пакінута Кімсьці.

1965 г.

### УНАЧЫ

Уночы чуюся пэўней,
нейк сьцішней пад аховай ночы —
душа ўспрыймае сьвет паўней
і да жыцьця я больш ахвочы.

Вунь хмары з праблескам сьвятла
над безданьню імчацца строма.
І я тулюся да вугла,
баюся аглушыцца громам.

Ды ціш і ноч. Спакой залёг.
На ўсіх пляцох і вуліцах нікога.
І здэцца — на зямлі мы двох:
я сам і Валадарства Бога.

1968 г.

### СЬЦІШНАСЬЦЬ

Вечар і ціхі і моўкны —
з вэлюму і ядвабу.
На вуліцу сьвецяць вокны
і цяплынёю вабяць.

Толькі з панэляў ня ўбачыш —
хоць станавіся на дыбкі —
жарсьці мукліва-гарачай
ані салодкіх абдымкаў.

Выдумаў гэта я можа...
Можа за тэю фіранкай
нехта, гаворачы „Божа!“,
не дажыве да ранку.

Але ў імгле вечаровай —
зябка-настылай яме —
кожны я раз зачарован
ціхімі вокнаў агнямі.

1968 г.

### РАМАН

... І раптам перада мною
ідзе яна, — што зы мной? —
такою зямною
на гэтай зямлі зямной.

Забыўся я, хто я і дзе я.
І бачыў цябе я калі?
Як быццам гэта падзея
сталася не на зямлі.

У гэтакім вось настроі
усьлед — ад вугла й да вугла —
іду за табою — стройнай —
куды-б ты ні павяла.

1968 г.

### БАЛЯДА

Чакаю. Прыдзі. Вярніся.
Ня йдзеш ты. Ня чуеш. Няма.
У воknax нідзе ня блісьне.
Сьцюдзёна. Марозна. Зіма.

І месяц і хмары на небе.
Паснулі дамы, як капцы.
Ды ўсё-ткі чамусьці мне лепей
на гэтым бязьлюдным пляцы.

Вунь кінуўся цень з балькону.
Пабегла фіранка ў вакне.
І буду я думаць да скону,
што ты адчыняла мне.

Я цэлую ноч тут прабуду
з таполямі на пляцы.
Паверыўшы ў тое цуда,
што сталася на пляцы.

1968 г.

□ □ □ □

*Міхась Кавыль.*

### КАБ ЯКОЕСЬ ЦУДА СТАЛА

Каб якоесь цуда стала:
Каб я жыць пачаў з пачатку, —
Ўзяў-бы хлеба, трохі сала
Ў торбу йзрэбную у латках

І пайшоў за чарадою
Хай сьвіней, няхай авечак.
Запіваў-бы хлеб вадою
З той крыніцы, што шчабеча

Салаўём каля ракіты.
Падстаўляў-бы сонцу цела.
І, як бронзаю абліты,
Бы статуя, стаяў сьмела

На зямлі бацькоў-герояў
Каля Случы пад гарою...

Ножкі, як бярозкі... „міні-міні“...
Здэцца-б піў дурман красы нахбом
Ды, каб жонка не разьбіла люстра,
Трэба ганіць: „Цьфу, распуста...“

1970 г.

### ІДУЦЬ ДЗЯЎЧАТЫ...

Ідуць дзяўчаты...
І, здаецца, сонца
Ім пад ногі кідае чырвонцы.
Ім зайздросьцяць прыгажосьці багіні.
Перад імі — вобземлю ілбом.

1970 г.

### СЯСТРЫ

Далёкая каханая сястра!
Ці помніш ты, як зьмеі-бліскавіцы
Саджалі джалы ў жыта ды пшаніцу,
Хвастамі росы абсякалі з траў?

Як неба ніву гром-пярун араў,
І я ў спалосе долу падаў ніцам?
А ты ня ўмела „Айчанаш“ маліцца,
Дык ціхай песьняй адганяла страх?

З тае пары колькі разоў грымела.
Мо не паверыш, але стаў я сьмелы:
Ўжо ня дрыжу, бы ўзімку верабей.

Ды вось, як толькі блісьне, загрукоча,
Замкнуцца самі неяк хутка вочы,
І ўбачу поле, гурт авец, цябе...

1969 г.



**А. САКОВІЧ**

# БРАТЫ

## Аповесьць.

**(Працяг, пачатак глядзі ў № 10-11).**

Максім бачыў, што затрымалі яго жандары. На грудзёх у кожнага з іх, на ланцугу, вісела бляха з гэральдычным арлом і напісам ”FELDGENDARMERIE“. Крыўдна зрабілася Максіму. Трапіў да немцаў літаральна на парозе дома, куды ішоў. Не хацелася згаджацца ісьці ў палон. Не чакаючы пытаньняў, ён палез у кішэню па дакумант, які сфабрыкаваў разам із Сарачэнкам і, стукаючы сябе ў грудзі пальцам, сказаў:

— Der Lehrer.

Адзін жандар узяў паперку й разглядаў яе, другі зьняў з галавы Максіма вушанку, паглядзеў, ці не састрыжаныя ягоныя валасы, як у большыні савецкіх жаўнераў. На Максімава шчасьце, лётніцкі пэрсанал не прымушалі стрыгчыся.

”Ці паўторыцца цуда? Ці застануся вольным і жывым?“ — думаў Максім. Ён стараўся спакойна глядзець на жандараў, не выдаваць хваляваньня, якое ўзьнялося ў сярэдзіне.

Немцы штось гаварылі да яго. Ён не разумеў. Паўтараў ”Der Lehrer“. Тады, паказаўшы рукою на дом, дзе жылі Раеўскія, дадаў:

— Mein Haus.

Што дапамагло? Паперка? Mein Haus? Максім ня ведаў. Быў бязь меры шчасьлівы, калі яго адпусьцілі. Удача акрыліла. Наперадзе, здавалася, лёг вольны шлях да самае Беларусі.

Ліда адчыніла дзьверы. Ён, радасна ўзбуджаны, шчасьлівы, абняў яе й, не адпускаючы ад сябе, закружыў па сенцах, сьпяваючы на ўвесь голас ”Ой, ляцелі гусі з далёкага броду . . .“

— Не вар’яцей, сьціхні! — адбівалася ад яго, усьміхаючыся, Ліда. — Людзі ў доме яшчэ могуць спаць . . . — І дадала: — У нас Вадзім.

На парозе, ля расчыненых дзьвярэй у пакой, стаяў брат. За шэсьць гадоў, якія Максім яго ня бачыў, Вадзім выцягнуўся больш, як на галаву. Быў нават трохі вышэйшы й шырэйшы ад Максіма і вельмі падобны на бацьку. Маці заўсёды скардзілася, што яны абодва пайшлі не па ёй.

— Жывыя мошчы танцуюць, — зазначыў Вадзім із жартлівай гіроніяй.

Ліда й Максім паглядзелі адзін на аднаго й мімаволі расьсьмяяліся. Абое яны — кволая, невялічкая Ліда й высокі Максім — былі запраўды вельмі худыя.

Гэты сьмех зрабіў лягчэйшым спатканьне братоў. Максім часта думаў, як ён спаткаецца з Вадзімам. Вестку, што той пайшоў працаваць у НКВД разам із Чысьцяковым, цяжка пераэжылі і ён і бацька. Яму здавалася, што, калі яны пабачацца, ён не працягне Вадзіму рукі. Пачуцьцёвы з натуры, у гэтую хвіліну ён забыўся на ўсё. Адчуваў толькі радасьць, што ў страшны час вайны бачыць свайго малодшага брата жывым. Яны пацалаваліся.

Раеўскія мелі два невялікія пакоі ды агульную кухню зь іншымі людзьмі ў доме. У першым пакоі ад сенцаў, сталовай, стаяў стол, вакол яго чатыры крэслы, а ля сьцяны, паміж вакном і печкай — канапа.

Засланы белым абрусам стол быў прыгатаваны да сьнеданьня: пасудак на гарбату й міса гарачых пірагоў стаялі ўжо на ім. Пасярэдзіне, у высокай шклянай вазе, красаваліся сьвежа зрэзаныя галінкі хвоі.

Нельга было назваць прыгожым ні сам пакой, ні ўмэбляваньне ягонае. Сьціплымі былі і стары стол, і самаробная канапа, засланая сіняй у белую клетку дзяружкай, і такія-ж шторкі для зацямненьня на вокнах, і нават зялёныя галінкі, заміж кветак у вазе. Але Максіму ўсё здавалася мілым і ўтульным. Пачуцьцё радасьці не пакідала яго.

— Як цудоўна мець смачнае сьнеданьне! — казаў ён і, нахіліўшыся над пірагамі, на ўсе грудзі ўдыхнуў у сябе прыемны пах нядаўна выцягнутага з печкі залаціста-ружовага печыва. — На якую ўрачыстасьць трапіў я?

— Анатолеў дзень народзінаў, — адказала Ліда. — Яму сёньня 43 гады.

У гэты момант із другога пакою, працягваючы да Максіма ў прывітаньні рукі, выйшаў Анатоль. Ягоны твар прамяніўся шчырасьцю й цяплынёю.

— Я не спадзяваўся, што ты сёньня прыдзеш, — казаў ён, сьціскаючы Максімаву руку сваімі абедзьвюма рукамі. — Гэта запраўды для мяне падарунак.

— А мае цыгарэты? — пажартавала Ліда, паказваючы на пачак, што ляжаў на стале, побач Анатолевага па-

судку.

— Цыгарэты? Дзе-ж ты іх дастала? — запытаўся Анатоль і, не чакаючы адказу, працягваў весела: — Зараз мы іх раскурым.

—Раней пасьнедаць, тады курыць, — запярэчыла яму Ліда.

— Можна і сьнедаць, і курыць разам, — азваліся ў адзін голас Анатоль і Вадзім.

— Каб вы часьцей былі такія згодныя, я нічога болей не хацела-б, — сказала Ліда й уздыхнула.

У ейным голасе чуўся схаваны дакор. „Каму?“ — падумаў Максім. І першы раз ад моманту спатканьня із сваіімі, прыгадаў ён, што брат працуе ў НКВД. Гэтая думка разанула сэрца нажом.

Хутка ўсе яны селі за стол сьнедаць. Ліда разьлівала гарбату па шклянках, частавала пірагамі з грыбамі й выглядала надзвычай жыцьцярадаснай, як і Анатоль.

— За колькі дзён мы зь Лідай спадзяемся быць гатовымі, каб рушыць дадому, — сказаў Анатоль. — Ты, Максім, пойдзеш із намі?

— Пайду. Я зразумеў, дзе маё месца, калі рэальна зазірнуў сьмерці ў вочы. — І ён пачаў апавядаць пра трагічнае здарэньне із самалётам, на якім ён ляцеў, пра кароткія імгненьні, калі ён думаў, што нясецца да зямлі на сьмерць. — Дзіўна, але тады ўсё жыцьцё ўстала перад вачыма . . . Усё перажытае . . . Не хацелася паміраць, не зрабіўшы нічога, не апраўдаўшы надзеяў бацькі . . . — Скончыў із глыбокім пераканаканьнем: — Я пайду з табою, Анатоль. Больш правільна — за табою. Ты маеш большае дазнаньне й разумееш сытуацыю часу лепей за мяне.

— Дзякую за давер, — сказаў Анатоль. — Я заўсёды верыў, што ты патрыёта, што ты годны сын Усевалада Назарэвіча.

Вадзім спахмурнеў. Ягоныя вочы панура абвялі ўсіх за сталом і спыніліся на Анатолю. Анатоль працягваў:

— Мы, беларусы, не павінны служыць Маскве. Мы павінны працаваць для свайго народу й свайго краю.

— Цікава, патрыёты, — перабіў Анатоля Вадзім, — што-ж вы канкрэтна зьбіраецеся рабіць на бацькаўшчыне?

— Табе не зразумець, — адказаў спакойна Анатоль.

— Чаму не зразумець?

— Бо ты... — сказаў Анатоль і запыніўся, быццам шукаючы адпаведнага слова.

— Ты хочаш сказаць „рэнэгат“! — загарэўся Вадзім.

— Вадзім, калі ласка, супакойся, гавары цішэй, — папрасіла Ліда.

— Не перабівай мяне! — нецярпліва кінуў ён у ейны бок. — Я хачу, каб Анатоль ведаў, што я таксама хварэю за лёс Беларусі, што я шаную памяць свайго бацькі ня меней ад Максіма... — Ад усхвалёванасьці, вочы ягоныя пацямнелі, твар зьбялеў да вуснаў, голас дрыжаў. — Ты, Анатоль, лёгка судзіш... Ты-ж ня ведаеш, чаму я пайшоў працаваць у НКВД, ня ведаеш, як пайшоў... Мо аднойчы я змагу зрабіць Беларусі болей дабра, чымся вы ўсе разам... Мо ў мяне тая самая мэта, што й у вас... Мо я толькі шукаю іншага шляху...

— Словы, словы... Фантастычныя дэклярацыі, якія табе цяпер прыйшлі ў галаву, каб апраўдацца перад Максімам і Лідай, — сказаў Анатоль.

— Карацей кажучы — няпраўда?

— Калі праўда — сумна. Сумна, бо чым далей ты будзеш ісьці па абраным табой шляху, тым болей адзінокім ты будзеш чуцца. Цябе будуць ужываць як беларуса для тае ці іншае мэты... Сярод Чысьцяковых ты засуджаны на адзінокае падарожжа... Людзей сумленных, маральных, з чыстымі ідэаламі, як твой бацька, сярод тых, з кім ты працуеш, няма.

— Чыстыя ідэалы? Сумленьне? Мараль? Старыя атрыбуты. Палітыка ня мае маралі, — пярэчыў Вадзім.

— А ты што, прапануеш мараль жывёльнага сьвету?

— Выжывае мацнейшы. Калі-б сярод беларусаў было болей із воўчымі душамі й клыкамі яны, мажліва, перамаглі-б.

Твар Анатоля пацямнеў.

— Ненавіджу цынізм і цынікаў, — сказаў ён.

— Скажы, што ненавідзіш мяне, — ізноў загарэўся Вадзім.

— Гэта блізка праўды, — згадзіўся Анатоль спакойна, але із сілай. — Я хацеў-бы сказаць ветлівей... Не магу, не хачу крывіць душой. Ненавісьць, нават жаданьне кары для Чысьцяковых і іхных памагатых жывуць у маёй крыві. Я ніколі не забудуся на дні й ночы допытаў, на брудную абразьлівую мову, на псыхічныя й фізічныя ўзьдзеяньні, на паламаныя ногі майго сябры Сьцяпана Некрашэвіча, на акрываўленую бялізну Язэпа Лёсіка, якую, як на зьдзек, аддалі ягонай жонцы, паведаміўшы, што ён памёр . . . на маю ўкрыжаваную бацькаўшчыну . . .

Анатоль змоўк. Максім паглядзеў на брата. Той сядзеў, апусьціўшы галаву, і, замест есьці, крышыў свой пірог на маленькія кавалачкі. Рукі ягоныя дрыжалі. Старая знаёмая з дзяцінства звычка, калі Вадзім чуўся вінаватым і чакаў на пакараньне. Максіму стала шкада брата. „Анатоль мае поўную рацыю, але ягоны суд засуровы“, — падумаў ён і сказаў:

— Кожны можа памыліцца. Ад дня нарадзінаў і да дня сьмерці мы ўсе рызыкуем памыліцца, кожны з нас. Гэта цана нашага існаваньня. Важна зразумець свае памылкі, знайсьці ў сабе сілы выправіць іх.

— Як хораша ты гэта сказаў! — заўважыла Ліда. — Кропля ў кроплю, як твой бацька, нават голасам ягоным.



Максім паглядзеў на Ліду, усьміхнуўся:

— Ты адгадала: я паўтарыў бацькавы словы.

— Бацька быў моцна ўгневаны на мяне? — запытаўся Вадзім.

— Угневаны? не . . . Пакутваў . . . Гневацца ён ня мог, бо ты ягоны сын. Але ён ня губляў веры, што аднойчы ты адумаешся, зразумееш, што зрабіў блага, і вернешся ў сьвет, зь якога паходзіш, да якога належыш . . .

— А ты?

— Ты мне брат. Я, як і наш бацька, жадаю аднаго: каб ты быў з намі.

— Ты чуў Анатоля? — спытаўся Вадзім голасам ненатуральна звонкім, нацягнутым, як струна, і змоўк на момант. Закончыў глуха: — І вы ўсе, і я сам добра ведаем, што цяпер людзі пры спатканьні, пазнаўшы Чысьцяковых, самі страляюць іх...

Ніхто яму не запярэчыў. А да Максіма прыйшла палохаючая сьвядомасьць, што брату немажліва дапамагчы, што той назаўсёды спаганіў сваё жыцьцё. І разам з тым гэта быў ягоны брат, і яму здалося, што той шукае ратунку, шукае дапамогі. Ён паглядзеў на Ліду. Ейны твар быў таксама ўсхвалёваны. З пакутлівай спагадай Ліда глядзела на Вадзіма й першай загаварыла:

— Вадзім, мы можам усе разам ісьці ў Магілёў да Анатолевых бацькоў. Там цябе ня ведаюць.

— Я быў-бы рады. А ці згодны на гэта Анатоль?

— Анатоль? Анатоль верыць у добрую волю чалавека, ён ідэаліста.

У Лідзіным голасе чулася шчырая просьба, калі яна зьвярнулася да мужа:

— Скажы, Анатоль, што ты ня супраць.

— Што-ж, калі ты й Максім верыце Вадзіму, настойваеце, я павінен далучыцца да вас, да большасьці. Ідзем разам з намі да маіх бацькоў, Вадзім.

Здавалася, што цяжкая напружнасьць у пакоі пасьля слоў Анатоля зьнікла. Усе павесялелі, перанятыя сямейнай згодай і надзеямі. Пачалі плянаваць, як лепей ісьці на Магілёў, што браць у дарогу. Недзе ў сэрцы Максіму было шкада, што ён не адразу пойдзе ў ягоны родны Менск.

Анатоль нібы адгадаў Максімавы думкі, сказаў яму:

— На Бацькаўшчыне ўсюды чакае нас праца, ня толькі ў Менску. Нават калі ў Магілёве мы пойдзем працаваць за настаўнікаў, гэта ўжо будзе наша служба Беларусі. Будучыня ў руках сёньняшніх дзяцей. Трэба пасьпець закласьці здаровае насеньне ў іхныя душы, і яно прарасьце . . .

Пасьля сьнеданьня Раеўскія настоілі, каб Максім пасьля дарогі адпачыў. Яго паклалі ў сваёй спальні й зачынілі дзьверы ў сталовую. І хоць Максім адчуваў зморанасьць, заснуць адразу ня мог. Ён прыслухоўваўся да прыглушаных галасоў. Чуў, як Раеўскія пачалі зьбірацца ісьці ў горад.

— Трэба паслухаць і паглядзець, што робіцца тут, блізка нас, — сказаў Анатоль.

— Вадзім, мо і ты пойдзеш з намі? — запыталася Ліда.

— Не, я застануся сьцерагчы хату й Максіма, — жартаваў Вадзім.

— Нашы дзьверы з калідора на кухню я залажыла на кручок. Ты не адгукайся, калі хто будзе стукацца.

— Будзе выканана, таварыш начальніца! . .

Максім чуў, як Вадзім павайсковаму стукнуў абцасамі. Уявіў высокую постаць брата на зважай перад маленькай Лідай, усьміхнуўся. ”Вадзім, як маці, спрытны на жарт“, — падумаў ён і тут-жа прыгадаў размову пра маці пад час сьнеданьня. Ліда спыталася: ”Вадзім, ці гэта праўда, што твая маці пакінула Чысьцякова?“ — ”Праўда“. — ”Кажуць, яна пабралася із Таўчынскім?“ — ”І гэта праўда“. Анатоль усьміхнуўся: ”Пазнаю Веру. Здольнасьць зьдзіўляць не пакідае яе.“ ”Запраўды здольнасьць зьдзіўляць,“ — згадзіўся Максім. Таўчынскага ў сям'і добра ведалі. Мастак-дэкаратар у тэатры, старэйшы ад Максіма хіба што на колькі год. Ён спытаўся: ”А дзе-ж маці цяпер?“ — ”Ня ведаю.“ — ”Калі вайна пачалася яна была ў Менску?“ — ”Наўрад. Незадоўга да вайны тэатр выехаў на гастролі.“ — Куды?“ — ”Я ня цікавіўся.“ Спахмурнелы твар, кароткія адказы, незадаволены голас сьведчылі аб тым, што Вадзім не хацеў гаварыць пра маці. ”Чаму? — дзівіўся Максім. — Што там яшчэ паміж імі здарылася? Распытаюся, як толькі застанемся ўдвох, сам на сам.“

Чакаючы, пакуль Раеўскія пойдуць, Максім на момант зачыніў вочы. Ачнуўся ён, калі ў доме бразнула дзьвярыма. Думаючы, што гэта пайшлі гаспадары, клікнуў: ”Вадзім!“ Ніхто із сталовай не адгукнуўся й не зварухнуўся.

Максім устаў, агледзеў сталовую й калідор. Вадзіма нідзе ня было. Дзьверы із калідора ў кухню ня былі заложаныя на кручок. Ён перайшоў пустую кухню, выглянуў на двор. Падаў рэдкі сьнег. Ніводнае душы на двару, толькі ад дзьвярэй па сьнезе сьвежы след на вуліцу . . . У Максімавай душы зацíхла радасьць. Куды пайшоў Вадзім? Чаму ён зманіў Лідзе, што будзе ў хаце?

Вадзім вярнуўся праз паўгадзіны.

— Дзе ты быў? — запытаўся Максім.

Ён спаткаў Вадзіма ў сенцах, і той на момант запыніўся на парозе кухні.

— Ты ня сьпіш? — зьдзівіўся Вадзім і зачыніў за сабою дзьверы.

У сенцах стала цёмна.

— Дзе ты быў? — паўтарыў Максім.

— У сяброў.

— Якіх сяброў?

— Маіх сяброў. Ты ня ведаеш іх.

— Ты запэўніў Ліду, што нікуды ня пойдзеш.

— Ты чуў?

Вадзім зьняў зь сябе кажушок і вушанку, павесіў іх на вяшак.

— Вельмі проста: калі Ліда пыталася, я ня думаў, што пайду, — сказаў ён і засьмяяўся.

Сьмех ягоны прагучэў фальшыва. Максім моўчкі пайшоў у сталовую, сеў на канапу. Усё яшчэ ўсьміхаючыся, Вадзім ішоў сьледам за братам, але ўсьмешка гэтая зьнікла, калі ён убачыў сумны твар Максіма.

— Я не магу сказаць табе праўды.

— Чаму?

Вадзім падыйшоў да вакна й стаў нэрвова выстукваць пальцамі па шкле якісь марш. Не паварачваючыся, ён ціха й настойліва паўтарыў:

— Лепей ня пытайся... Я нічога не магу табе сказаць... — І тут-жа дадаў: — Ліда й Анатоль вярнуліся, абтрасаюць на ганку зь сябе сьнег.

Максім падыйшоў і стаў побач Вадзіма. Той ня глядзячы на яго, папрасіў:

— Калі ласка, нічога не кажы ім пра мяне.

Тым вечарам заседзеліся ўсе разам позна. Болей ад усіх апавядаў Вадзім: ягоныя весткі былі з бацькаўшчыны. Ён перажыў першыя дні вайны ў Менску, бачыў збамбардаваны, палаючы ў вагні горад, паніку, уцекачоў па дарогах...

У кватэры Раеўскіх з-пад падлогі, з вокнаў дзьмуў холад. Таму доўга палілі печку, каб уначы было цёпла спаць. Ліда й Анатоль засталіся сядзець каля цёплае печкі на столку. Анатоль паклаў сваю руку вакол плячэй Ліды. Іхная згоднасьць, духовая блізкасьць заўсёды ўзрушалі Максіма, відаць, таму, што ў сям'і бацькоў ён бачыў іншае. Ён памятаў, як дзівілася ягоная маці, калі Ліда пабралася з Анатолем. "Я ніколі ня глянула-б у яго бок," — казала яна пра Анатоля. — "Малы, чорны, як цыган... Дзіўна, што Ліда знайшла ў ім?" "Багатую душу," — адказаў бацька. "Душу? Якое глупства гаварыць у наш век пра душу!" „Пэўна, для цябе глупства, бо ты душы ня маеш." "А ты маеш?" "Маю... І Ліда мае. Яны з Анатолем будуць шчасьлівыя."

Цяпер, прыгадаўшы размову бацькоў і гледзячы на Ліду, Максім падумаў, што Сабіна мае падабенства да Ліды. Мяккі голас, ласкавая ўсьмешка й сінія лагодныя вочы. Ён сказаў да Ліды:

— Гэтымі днямі я спаткаў дзяўчыну... Сабіна Дарашэвіч... Такая мілая, шчырая, праўдзівая... Вельмі падобная да цябе.

— Усе дзяўчаты мілыя й праўдзівыя, — азваўся Вадзім. — Цікава, адкуль бяруцца злыя, ілжывыя кабеты?

— Вадзім, ня крыўдзі мяне.

— Цябе, Лідуся, ніколі. Ты выключэньне. Пасьля Максіма ты адзіны чалавек, якога, каб я й хацеў, дык ня могбы пакрыўдзіць.

— Сабіна Дарашэвіч? — перапытаў Максіма Анатоль. — Ці ня мінчанка?

— Мінчанка, выхаванка дзіцячага прытулку. Праўдападобна, у дваццаць шостым годзе зь ейнымі бацькамі сталася штось благое.

— Тых Дарашэвічаў, што я ведаў, — сказаў Анатоль, — расстралялі.

— Ты іх блізка ведаў?

— Не магу сказаць, што блізка, але сам Дарашэвіч быў вядомы сярод нас як мастак-фатограф. Улетку 1922 году прыйшоў ён дзесь ні то з Вілейшчыны, ні то з Навагрудчыны разам із жонкаю. Тады гэта было ня так цяжка зрабіць. У дваццаць шостым годзе яны зьніклі. Казалі што іх расстралялі.

— Мо Сабіна з тэй самай сям'і?

— Мажліва, але я ня ведаю, ці мелі Дарашэвічы дзеці, — адказаў Анатоль. — Тады шмат хто перайшоў мяжу да нас. Пазьней усе яны арыштам ці сьмерцю за гэта заплацілі.

— Са мною на адным курсе Андрэй Дарашэвіч вучыўся, — дадала Ліда. — Ён скончыў Віленскую беларускую гімназію й да нас стуль на ўнівэрсытэт прыйшоў. Быў вельмі расчараваны, што ў царкву хадзіць не дазвалялася. Казаў адночйы мне, што як убачыў чырвоных пагранічнікаў у будзёнаўскіх шапках, адразу сэрца ўпала: яны нагадалі яму рымскіх жаўнераў, укрыжаваўшых Хрыста... Андрэя арыштавалі ў трыццатым годзе, разам з усімі...

— Што Віленскія й Навагрудскія гімназістыя лавіліся на прапаганду, ня дзіва — моладзь. Але як маглі ашукацца такія дасьведчаныя палітычныя дзеячы, як Аляксандар Цьвікевіч і Вацлаў Ластоўскі? — запытаўся Анатоля Вадзім.

— Шмат хто тады ашукаўся, — адказаў Анатоль. — Ня толькі тыя, што былі за мяжою. У дваццатыя гады мы ўсё яшчэ мелі надзею, што, ідучы побач камуністых, можна будзе штось зрабіць для свайго народу, што з часам само жыцьцё адкіне нерэальную марксісцкую філёзофію..

Было па 12-ай гадзіне начы, калі пачалі зьбірацца спаць. На некаторы час усе спыніліся каля канапы. Гэта было адзінае месца ў кватэры Раеўскіх, дзе клалі гасьцей. Але для двох канапа была завузкая, таму прабавалі зрабіць яе шырэйшай, падстаўляючы крэслы.

Ліда жартавала:



— Хлопчыкі, мусіце цягнуць лёсы, каму спаць ад краю, на крэслах.

— Ня згодны, — запярэчыў Вадзім. — Я малодшы, і маё месца ад сьцяны...

Нечакана ўсе змоўклі: хтось паціху стукаў з двара. Анатоль хуценька падыйшоў да лямпы, што зьвісала ад столі над сярэдзінай стала, укруціў кнот і, прыклаўшы далонь да вярхушкі шкла, хукнуў на агонь. Лямпа згасла.

— Тук... тук... тук... — чулася йзноў з рытмічнымі перабоямі.

— Я пагляджу, мо гэта хтось да нас, — сказаў шэптам Анатоль і пайшоў вобмацкам да вакна.

— Мо немцы? — у страсе сказала Ліда, падыходзячы зусім блізка да Максіма й Вадзіма, каб яны маглі пачуць ейны шэпт.

— Немцы ня так-бы стукалі, — заспакоіў яе Максім.

Вадзім нічога не казаў, толькі сваёю рукою сударгава сьціснуў руку Максіма. Максіму здалося, што брат моцна ўстрывожаны. Ён прыгадаў, што той кудысь хадзіў удзень, падумаў: "Вадзім ведае, хто стукае... Відаць, прыйшлі па яго, выклікаюць."

У гэты момант Анатоль адсунуў шторку на вакне. За вакном, затканым шэраньню, ярка сьвяціў месяц. Голыя чорныя галіны хісталіся ў ветры, клаліся ценьмі на шкло, шорхаліся, біліся аб дах.

— На дварэ нікога няма, — заспакоіў усіх Анатоль. — Гэта вецер узьняўся, асінаю каля хаты трасе.

Вадзім забраў сваю руку з рукі брата, голасна ўздыхнуў і якімсь дзіўным голасам, у якім гучэлі ноты заклапочанасьці, папрасіў:

— Будзем клясьціся спаць.

— Дабранач! — пажадалі Раеўскія й пашлі ў сваю спальню.

— Пасядзім крыху, — прапанаваў Вадзім адразу, як толькі дзьверы ў спальню зачыніліся.

Не чакаючы адказу ад Максіма, ён завярнуў на канапу пасьцель, што ўжо была пасланая на крэслах, аднёс крэслы да стала. Рушыўся вельмі ціха, хутка, быццам сьпяшаўся.

— Ты што, ня зьбіраешся клясьціся? — зьдзівіўся Максім.

— Я, відаць, пайду сёньня адсюль.

— Чаму?

— Прадчуваньне, — адказаў Вадзім і сеў на канапу.

— Ты й твае прадчуваньні... — пасправаваў расьсьмяяцца Максім.

Сьмех ня выйшаў. Вадзім заставаўся сядзець моўчкі, увесь нейкі сагнуты, з апушчанаю долу галавою, бы чымсь прыгнечаны. "Што так раптоўна зьмяніла ягоны настрой? Стук?" — падумаў Максім і тут-жа сябе заспакоіў: —"Гэта мне толькі здаецца. Увесь вечар Вадзім шмат апавядаў, шмат жартаваў, цяпер настала рэакцыя." Ён сеў побач Вадзіма, запытаўся:

— У цябе, здаецца, ёсьць яшчэ махорка?

Для Максіма было нечаканым, калі ў адказ Вадзім паціху засьмяяўся:

— Ня толькі махорка, а такі самы пачак цыгарэтаў, які мы раскурылі з Анатолем.

— Адкуль?

— Мае. І тыя былі мае. Бачыш, Ліда баялася, што Анатоль адмовіцца ад майго падарунку. Памеркаваўшы, мы зь ёю вырашылі, што яна падорыць цыгарэты ад сябе.

Некаторы час яны сядзелі моўчкі, кожны ўглыблены ў свае думкі. Курылі.

Максім парушыў маўчаньне першы:

— Чаму ты пайшоў працаваць да Чысьцякова?

Раней, чым адказаць, Вадзім зацягнуўся цыгарэтай. Канец яе заярчэў, асьвяціў сурова сьціснутыя вусны, жорсткі твар... Чужы, незнаёмы выраз. Такім Максім ніколі брата ня бачыў, нават пад час спрэчкі з Анатолем.

— Ты хочаш ведаць праўду? — Ён ізноў глыбока зацягнуўся цыгарэтай. — Слухай... Мяне грызла адзіноцтва. Ты паехаў, ня пісаў. Бацька на'т на дзень народзінаў ня прыслаў павіншаваньня...

— Мы пісалі табе, але-ж ты не адказваў.

— Значыць, маці нішчыла лісты.

— А мо Чысьцякоў?

— Яна. Яна горай ад яго. Я пэўны гэтага. Памятаеш, як бацьку арыштавалі, і мы насілі яму перадачу? Усе жонкі былі там самі: і Цвікевічыха, і Лёсічыха, і Смолічыха... Дзяцей іхных ня было...

— Я памятаю, — сказаў Максім.

Ён не забыўся, як яму было сорамна за маці перад тымі жанчынамі. Ён ня мог глядзець ім у вочы. Яму здавалася, што кожная зь іх шкадуе іх, як пакінутых шчанюкоў.

Калі Вадзім загаварыў ізноў, ён прысунуўся бліжэй да Максіма, нібы асьцерагаўся, што ягоны шэпат могуць пачуць у другім пакоі:

— У трыццаць шостым годзе Чысьцякова паслалі ў Гішпанію. Яго ня было шэсьць месяцаў. Тады ў маці зьявіўся новы адаратар — рэжысэр тэатру. Аднойчы я знайшоў ліст. "Я кахаю цябе... Ты мая муза, маё натхненьне..." Я насіў гэты ліст з сабою некалькі дзён. Хацеў паказаць ёй, спытацца, ці гэта да яе...

Максім слухаў. Голас Вадзіма вёў яго назад у бацькаўскі дом, у гады дзяцінства, калі яны яшчэ былі разам. Ён бачыў перад сабою дзіцячы пакой зь ясьнымі ў кветкі шпалерамі, два ложкі побач, вялікі стол для заняткаў ля вакна, а за вакном густа зарослы па краёх бэзам і чаромхай сад. Зь іхнага пакою былі дзьверы ў калідор і спальню

бацькоў . . .

Вадзім працягваў:

— Ліст скамячыўся ў маёй кішэні й руках. Так часта я выймаў яго, каб паказаць ёй . . . Не адважыўся . . . Недзе ўсё яшчэ жыла надзея, што гэта не да яе . . . што гэта мо частка ад якойсь ролі з п'есы. Але я зьненавідзеў рэжысэра. Хаваўся ад яго, каб ня вітацца зь ім. Так было і ў той дзень. Яны прыйшлі разам пасьля рэпэтыцыі. Маці паклікала мяне з калідора. Я не адгукнуўся, прытаіўшыся ў сталовай. Яна прайшла праз наш пакой да сябе ў спальню, ён за ёю . . . Зачыніліся дзьверы . . . Я чуў, як шчоўкнуў ключ у дзьвярох... Для мяне гэта быў канец...

Максім услухоўваўся ўва ўсхвалёваны шэпат брата, і яму здавалася, што гады расстаньня адыйшлі, яны ізноў былі адзін з адным, разумеючы адзін аднаго, як і раней, шэсьць гадоў таму назад.

— Я ня памятую, як я выскачыў з хаты. Я ня дбаў, ці пачуюць яны мяне . . . У садзе залез у кусты бэзу . . . У вачох было цёмна . . . Мне здавалася, што зямля калышыцца пада мною . . . Страшныя думкі апанавалі мною . . . Забіць яго? Ці абодвых? . . Я вярнуўся ў хату толькі тады, калі яны пайшлі ў тэатр. Пасьля спэктаклю маці, як звычайна, прыйшла недзе а палове дванаццатай. Я быў у ложку, зрабіў выгляд, што сплю . . . У роспачы я праплакаў усю ноч, зарыўшыся з галавою пад коўдру, каб яна мяне не пачула. Настала раніца. Я мусіў устаць, спаткацца зь ёю . . . Мне здавалася, што яна павінна была быць чырвонай ад сораму . . . Яна была такой, як заўсёды, сьпявала. Праз месяц вярнуўся Чысьцякоў. Яна кінулася яму на шыю . . . Ад таго часу я згубіў веру ў людзей. Я чуў сябе зраджаным, пакінутым усімі . . . Я ненавідзеў усіх навокала . . . Таксама цябе й бацьку, што забыліся на мяне . . .

— Мой бедны Вадзім, мой бедны Вадзім, — сказаў Максім, агорнуты сумам.

— Я зьненавідзеў маці, але найболей таго рэжысэра. Прыйшла думка, што калі я пайду працаваць да Чысьцякова, я змагу памсьціцца яму.

— Рэжысэр быў арыштаваны?

— Пэўна. У трыццаць сёмым годзе Чысьцяковым. Пры вобыску ў ягонай кватэры знайшлі кавалак туалетнага мыла з Польшчы. Абвінавацілі ў шпіянажы. Тройка засудзіла на дзесяць гадоў канцлягеру.

Голас Вадзіма гучэў бясклопатна, весела.

— Вадзім, — сказаў Максім, — дай мне слова . . .

— Якое? Піянэрскае?

— Не жартуй, паабяцай . . .

— Што паабяцаць? — узарваўся Вадзім нечакана. — Не рабіць зла людзям? Стаць сумленным? . . Ахвярным? Якая лухта! . .

Зьбянтэжаны, Максім не знаходзіў слоў для адказу.

— Ты ўсё яшчэ марыш пра гэраізм? — пытаўся Вадзім.

— Мару.

— Марыш, як некалі ў дзяцінстве, стаць Кастусём Каліноўскім?

— Нацыя патрабуе гэрояў, каб не забывацца пра змаганьне.

— Дарэмныя спадзяваньні! Цяпер Каліноўскіх расстрэльваюць у закутках падвалаў, бяз сьведкаў, без спачуваньняў натоўпу . . . Па гэроях не пакідаюць ніякага сьледу.

Голас Вадзімаў стаў ізноў вельмі ціхі і сумны:

— Не вымагай ад мяне таго, чаго я ня ў стане зрабіць. Памятаеш Міхася Левановіча?

— Маладога сьледчага, што рабіў вобыск у нашай хаце пад час арышту бацькі?

— Той . . . У час яжоўшчыны ня вытрымалі ягоныя нэрвы, а мо загаварыла беларускае сумленьне. Перайшоў мяжу, хацеў пачаць новае жыцьцё ў заходняй Беларусі. Праз месяц злавілі, прывезьлі назад у мяшку, расстралялі.

— Цяпер вайна.

— Мне людзі ня будуць верыць.

— Ты пераканаеш іх сваімі справамі, будзеш працаваць з намі ў Магілёве.

— У Магілёве нямала ўцекачоў зь Менску . . .

Максім абурыўся:

— Чаму-ж тады ты прасіўся ў Анатоля йсьці да ягоных бацькоў?

— Было вялікаю спакусаю памарыць разам з вамі. Іншы раз хочацца адчуць сябе . . . ідэалістым . . . Пабыць у высокароднай ролі . . .

"Цынічны жарт, ці глыбокі боль, прыкрыты цынізмам?" — падумаў Максім і спытаўся:

— Скажы мне шчыра: ты тады хлусіў, ці хлусіш цяпер?

— Шчыра? . . . Добра. Я ведаў, што мне няма як ісьці з вамі. Але Ліда мела такі пакутлівы твар, пакуль я спрачаўся з Анатолем . . . Я разумеў, што псую ёй сьвята. Яна так рыхтавалася да яго, — усьміхнуўся ён, — нават спакусілася на мае цыгарэты . . . — Закончыў сардэчным голасам: — Гэтыя гадзіны, што я мог пабыць з табою й Лідаю, былі задарагія для мяне, каб губляць іх на сум, варожасьць, спрэчкі . . .

Супярэчлівыя пачуцьці рвалі сэрца Максіма, душылі горла: абурэньне, жаль, сорам, жаданьне дапамагчы й надзея пераканаць брата ісьці разам. Ён шукаў слоў, каб выказаць іх, але Вадзім узьняўся з канапы.

— Мне час зьбірацца. Каб ты крыху прыўзьняўся, — папрасіў ён, — я хацеў-бы сьцягнуць з пасьцелі прасьціню. Яна добрае прыкрыцьцё на сьнезе ў полі.



— Ты пойдзеш, не развітаўшыся з Лідай і Анатолем?

— А пашто развітвацца?

— Скажы праўду. Анатоль ня зьдзівіцца.

Вадзім пайшоў. Як на паховінах, цяжкімі былі апошнія хвіліны развітаньня. Максіма балюча грызла думка, што на ягоных вачох Вадзіма глыбей пацягнула ў багну . . . А ён, Максім, нічога ня здолеў зрабіць, каб выратаваць брата.

4.

Выдаўся нарэдкасьць марозны сонечны дзень.

Пад акампаніямэнт далёкага гулу кананады ішла Сабіна ў кірунку былога санаторыя, дзе цяпер жылі Сарачэнкі. Кананада не турбавала яе. Яна ўжо прызвычаілася да штодзённага, амаль бесперапыннага грукату артылерыі.

Прыемна дыхалася сухім паветрам. Захутанай у белую ваўняную хустку паверх чорнага зімовага паліто, у высокіх валёнках, ёй было цёпла. Ішла яна па пратоптанай людзьмі дарозе, што круцілася праз засьнежанае поле да самага парку санаторыя.

У дзевятнаццаць гадоў лёгка марыцца й верыцца. Сум і жаль, якія яшчэ ўначы гнялі Сабіну, адыйшлі. Ейнае вока вабіла ўсё: чысты сьнег зь мільярдамі сонечных бліскавак; густая зубчастая сьцяна векавых дрэваў парку ў далячыні; адзінокая, заіндзявелая бярозка пры дарозе. Беластволая, цянюткая, з крышталёвымі галінамі на сінім небе, бярозка здавалася казачнай. "Маладая, прыгожая і адна", — падумала Сабіна, і ёй стала шкада ні то бярозкі, ні то самое сябе. Але ў наступны момант яна весела расьсьмяялася: "Хутка я ўжо ня буду сама: у Менску я спаткаю Максіма." Верылася ёй, што там, дзе некалі жылі ейныя бацькі, дзе нарадзілася яна, куды мо ўжо прыйшоў Максім, чакае на яе штосьць нязвычайнае, чакае шчасьце. Доўгая дарога? Небясьпека? Сьмерць? Яе цяпер нішто не палохала. У ейным сэрцы не засталося месца для страху. У сэрцы жыла надзея. Яна ўсьміхнулася сама сабе, калі ўявіла, як зьдзівяцца Сарачэнкі, калі яна ім абвесьціць: "Я зьбіраюся ў падарожжа на бацькаўшчыну."

Ісьці да Сарачэнкаў было ня зусім бясьпечна: у галоўным будынку санаторыя нядаўна разьмясьціўся нямецкі штаб. Але Сабіна памятала, што Максім перад адыходам на Малаяраславец доўга разглядаў із Грыцам карту. Зь ім хацела і яна парадзіцца, якой дарогай лягчэй будзе дабрацца да Менску.

Пры ўваходзе ў парк высілася на слупу напісаная панямецку шыльда. Што на ёй напісана, Сабіна не разумела. "Мо не дазваляецца цяпер хадзіць праз парк?" — занепакоілася яна й адразу павярнула на бакавую алею.

Праз камлі дрэваў яна бачыла, як па галоўнай алеі мільгалі аўты, ішлі нямецкія жаўнеры невялікімі групамі ці паасобку. Ёй насустрач спаткаліся таксама двох жаўнераў. Мінулі, не запытаўшыся папераў. Ніхто не затрымаў яе й каля доўгага аднапавярховага, падобнага на барак, будынка. Да вайны ў ім жыла абслуга санаторыя, а цяпер назьбіралася шмат розных людзей з ваколіцаў. Пажыўшы трохі ў сям'і заатэхніка ў саўгасе, тут знайшлі сабе асобны пакой і Сарачэнкі.

На стосе нарыхтаваных на зіму дроў, недалёка ад уваходу ў калідор будынка, малады жаўнер, вытрасшы, раскладаў праветрыцца на марозе спальны мяшок. Трох іншых стаяла на самым ганку. Яны аб чымсьці голасна размаўлялі й рагаталі. Сабіна прайшла паўз іх, ня ўзьнімаючы вачэй.

— Мы зьбіраемся на сваю Палтаўшчыну, — былі адны зь першых слоў Магдалены, калі яна ўбачыла Сабіну.

— Я таксама хачу ісьці адсюль.

— Куды?

— У Менск.

— Да каго?

— Маю адрас.

— Максімаў?

— Не, учора ў забітага каля школы я знайшла блёкнот з адрасамі . . . Тры адрасы з Воршы, адзін — зь Менску.

— Ворша бліжэй адсюль за Менск, — пажартавала Магдалена.

Сабіна нічога не адказала.

— Забіты? Юнак? — спыталася Магдалена.

— Прыблізна такі, як Максім. . . — Сабіна падумала з часінку, прыпамінаючы твар юнака, і дадала: — Можна нават сказаць, што падобны да Максіма.

— Ня выходзіць у вас з галавы Максім, усюды мярэшчыцца. Прызнайцеся, вас і ў Менск цягне таму, што ён туды пайшоў? Глядзеце, не памылецеся. Паслухайце старэйшай кабеты, якая ведае жыцьцё лепей: закаханы хлапец не чакае, ён сам кліча йсьці разам.

— Я й ня думала пра Максіма, калі вырашыла йсьці на бацькаўшчыну, — хлусіла Сабіна. — У Менску я маю надзею штосьць даведацца пра бацькоў, ці знайсьці сваякоў. — Пра сябе думала: „Магдалена праўду кажа: Максім ня клікаў мяне із сабою, я сама бягу за ім."

Ёй стала горача ад сораму, яна павярнула галаву да вакна, каб схаваць чырвань, што заліла ейны твар.

З вакна было відаць галоўную алею й будынак санаторыя: прыгожы двухпавярховы белы будынак з бальконамі

нам, абапёртым на круглыя калёны. Людзі казалі, што ў старыя часы гэта быў палац магната.

На алеі стаяў Грыц зь нямецкім афіцэрам. Паміж імі, даверліва ўхапіўшы кожнага за руку, сьлізгаўся па сьнезе Тарас.

— Я бачу, вы тут зь немцамі добрае знаёмства завялі, — сказала Сабіна, стараючыся адвесьці размову ад сябе.

Магдалена зірнула ў вакно, куды глядзела Сабіна.

— Гэта Вальтэр Танэнбэрг. Першы зь ім завёў знаёмства наш Тарас, — растлумачыла яна. Голас яе загучэў усхвалёвана: — Я ня ведаю, але я не магу змусіць сябе ненавідзець немцаў . . . Калі я зблізку нагледаю іх, я бачу, што й яны сумуюць па сваіх сем'ях, баяцца сьмерці, спачуваюць людзям . . .

За час знаёмства із Сабінаю Магдалена ўпяршыню так адкрыта гаварыла. Вайною яна, як і іншыя людзі, скінула зь сябе маску, пад якой хавала свае думкі й пачуцьці. Сабіна сама даверылася Максіму. Раней яна-б не адважылася так зрабіць . . . Але шкадаваць немцаў? Гэтага Сабіна не магла зразумець. Сказала востра:

— Вы забыліся, што немцы прынесьлі нам вайну, сьмерць, руіны! . .

Магдалена не згадзілася зь ёю:

— Ня кожны нямецкі жаўнер прыйшоў сюды з свае волі. Яму загадалі, таксама як украінцу ці беларусу загадваюць цяпер бараніць ды яшчэ каго — свайго спрадвечнага ворага, Маскву . . .

Нязвычайнымі былі разважаньні Магдалены, але й Максім называў Маскву ворагам і акупантам. Яму Сабіна верыла. Таму перастала пярэчыць і цяпер.

Пакуль вярнуўся Грыц, Магдалена апавядала, як спачатку ў іхным суседстве жылі артылерыстыя, якія штодзень зьменамі, як на працу, езьдзілі на свае пазыцыі пад Нара-Фамінск. Пазьней, калі ў санаторыі зьявіўся штаб, іхнымі суседзямі сталі жандары. Сарачэнкі былі пазнаёміліся з адным артылерыстым, Пэтэрам. Ён паходзіў зь Мюнхэну, называў сябе баварцам, ня раз крытыкаваў Гітлера. Аднойчы сказаў: "Выпусьціць-бы на сцэну нашага Гітлера ды вашага Сталіна, даць ім абодвым па даўбні, няхай-бы калаціліся адзін з адным, вырашалі свае палітычныя спрэчкі . . ." Па зьяўленьні штабу, артылерыстыя атрымалі загад рушыцца далей на ўсход. Пэтэр пры разьвітаньні папярэдзіў Сарачэнкаў: "Ня ўздумайце із жандармамі разважаць аб вайне так, як са мною. Яны зраднікі".

— Цяпер да нашае сям'і гэты лейтэнант Танэнбэрг прыбіўся, — працягвала Магдалена. — Любіць зайсьці пабавіцца з Тарасам. Ён мае дома двох малых хлапцоў, дужа сумуе па іх і жонцы. Заўважыў, што мы ня шмат маем есьці, пачаў хлеб нам патроху насіць . . . Праўда, — усьміхнулася Магдалена, — пра палітыку, як Пэтэр, ён з намі не разважае. І мы сваіх паглядаў перад ім ня выказваем.

Візыта да Сарачэнкаў не зьмяніла намеру Сабіны йсьці на Менск, але надала яму новы кірунак. Сарачэнкі спадзяваліся пры дапамозе Танэнбэрга дастаць дазвол на падарожжа. Дазвол даваў мажлівасьць ехаць нямецкімі аўтамі. Часта цяжароўкі, што падвозілі войску харчы й пошту, вярталіся назад пустымі.

— Глядзеце, яшчэ раней Максіма ў Менску будзеце, — не прамінула пажартаваць Магдалена.

— Ня думаю, — азвалася Сабіна: — Максім ужо амаль месяц як пайшоў.

— Ісьці — ня ехаць. Ён мо яшчэ дзе ў дарозе.

Сарачэнкі ня толькі параілі, але й дасталі для Сабіны патрэбны дазвол. Дзесь праз тыдзень, у панядзелак 1-га сьнежаня, разам зь імі пачала яна сваё падарожжа, а праз дзесяць дзён была на парозе Беларусі, пад'язджала да Рослава.

Тым раньнем у аўце з Сабінаю былі новыя людзі. Маладая кабета Зіна з малымі, Волечкай і Паўлючком, ды яе малодшая сястра Натуся. Дзеці, захутаныя з галавою паверх зімовае вопраткі ў ружовую ватную коўдру, ляжалі каля маці. Сабіна з Натусяй сядзелі побач, сьпіною да шоферскае кабінкі. Яны таксама прыкрылі свае ногі коўдраю, блізка прытуліліся адна да аднае, бо брэзэнтавы верх кузава мала бараніў ад холаду ў полі. Насупраць іх сядзела двох старэйшых людзей — чалавек і жонка. Яны былі дзесь з-пад Рослава і ў той дзень мелі надзею быць дома.

Ветлівая, гаваркая Натуся падабалася Сабіне. Пакуль яны разам чакалі на аўта, тая пасьпела расказаць, што яна студэнтка, што за колькі дзён да вайны была прыехала да сястры пагасьціць, што цяпер едуць да сваіх бацькоў пад Мсьціслаў, што швагра яшчэ у чэрвені забралі ў армію.

Праз гадзіны тры ў дарозе сталі. Шофер выскачыў із кабінкі, адхінуў на бок у канцы кузава брэзэнт і знакамі рукі пачаў клікаць дзядзьку вылазіць.

— Што яму трэба ад цябе? — захвалявалася жонка.

— А хіба я ведаю? — адказаў дзядзька. Ён перакінуў ногі праз кузаў і саскочыў на зямлю.

— Немец павёў майго чалавека кудысь, — казала кабета. Яна выглядала перапалоханай.

— Дзяўчаты, — занепакоілася Зіна, — паглядзеце на вашым баку. Што там здарылася?

Натуся з Сабінаю прыўзьнялі каля сябе брэзэнт, высунулі галовы. Упоперак шашы, коламі ўгару, ляжала невялікая цяжароўка. Трох вайскоўцаў намагаліся паставіць яе на колы. Шофэр зь дзядзькам ішлі да іх з дапамогаю.



Ля самае шашы ў полі стаяў сьвежы драўляны крыж. На ім — нямецкі шолам.

— Колькі цяпер такіх крыжоў на дарогах! — зь якімсь нязвычайным для яе сумам прамовіла Натуся. — І ляжаць пад імі ўсё маладыя хлапцы.

"Маладыя хлапцы." Ад гэтых слоў Сабіну кінула ў жах. Першы раз ёй прыйшла думка, што ў дарозе магло забіць і Максіма. Пахаладзела на сэрцы. Сказала з трывогаю:

— Не кажы так! Не наклікай бяды!

— На каго? На нас?

— Хоць-бы й на нас.

— Ты прымхлівая, — усьміхнулася Натуся.

— У вайну цяжка ня быць прымхлівай. Столькі гора людзкога й пакутаў! — далучылася да размовы Зіна. Голас ейны задрыжаў, калі яна дадала: — Мо й мой Андрэй ужо ляжыць дзесь . . . і бяз крыжа . . .

Усе сьціхлі, зажурыліся. Зініны вочы наліліся сьлязамі. Нават з Натусінага твару зьбегла заўсёдная ўсьмешка. А кабета не адрывала спалоханых вачэй ад шашы, дзе ейны чалавек разам зь немцамі тузаў непадатлівую коўзкую цяжароўку.

Сабіну таксама даймалі страхі. "Ці адолеюць тыя аўта? А мо прыйдзецца ўсім ісьці на пяхоту? Што станецца ў полі на холадзе з малымі? . . Вайна ні да кога ня мае літасьці. Сьмерць — на кожным кроку . . . Максім? Дзе ён? Што зь ім?" Яна скаланула галавою, стараючыся адагнаць ад сябе гнятучыя думкі. "Максім адважны . . . Ён дойдзе дадому жывым . . . І я дайду . . ." Гэта было тое, у што Сабіна паверыла, калі наважылася йсьці й у што яна хацела верыць і цяпер.

Сабіна пачала ўсьміхацца, спыталася ў кабеты:

— Як далёка мы ад Рослава?

— Ня болей за дзесяць кілямэтраў.

— Дык ня варта й трывожыцца: калі не даедзем, то нейк разам дойдзем, — падбадзёрыла ўсіх і самую сябе Сабіна.

Усё абышлося добра, і дзесь блізка полудня яны ехалі ўгару па шырокай бязьлюднай вуліцы Рослава. У ясным небе зіхацела сонца; як увесну, з-пад дахаў зьвісалі капяжы; з-пад колаў кідала мокры сьнег.

Дзяцей выцягнулі з коўдры, а дзяўчаты йзноў адсунулі на сваім баку брэзэнт, каб бачыць горад.

— Ды тут адліга! — амаль сьпявала ў радасьці Натуся.

— Адліга, — паўтарыла за Натусяй Сабіна. Ёй здавалася, што вайна, небясьпека засталіся далёка, там, дзе лютуюць маразы, дзе ў сьнежні яна не памятала адлігу.

Іх выладавалі каля прытулку для ўцекачоў. Старэйшыя разьвіталіся з усімі, а Зіна з Натусяй, узяўшы за рукі малых і клункі з пасьцельлю, пайшлі ў прытулак. Сабіна засталася на ганку сьцерагчы два Зініны куфры.

Крывы завулак. Стары, аблуплены з чырвонае фарбы дом. Каля ганку — іржавае вядро ды чарапкі рыжага гліняна макотра. Ціха. Ні стрэлаў, ні гулу самалётаў. . .

— Як тут мёртва! — сказала Сабіна да Натусі, калі тая вярнулася па рэчы.

— Міраж, хвілінны міраж, — жартавала Натуся. — Там, у сярэдзіне, жыцьцё кіпіць: пакой вялікі, людзей шмат, і наш Паўлючок канцэрт дае.

Забраўшы рэчы, яны перайшлі паўцёмны калідор. Натуся адчыніла дзьверы ў пакой.

— Глядзі, не пасьлізьніся, — папярэдзіла Натуся. — На парозе мокра ад нанесенага нагамі сьнегу.

Сабіна павольна пераступіла парог. Яна чула галасы людзей, дзіцячы сьмех, плач Паўлючка, але нічога ня бачыла. Два вакны, вузкія, высокія, часткава пазабіваныя фанерай, прапускалі ня шмат сьвятла.

Ужо ўгледзеўшыся, яна ўбачыла, што ў пакоі няма ні крэслаў, ні ложкаў, ні стала. Уздоўж сьценаў сядзелі й ляжалі на раскладзеных коўдрах людзі. Пасярэдзіне стаяла круглая жалезная печка. Ад печкі прыемна пыхала жарам. Зіна раскладала свае рэчы ля сьцяны пад вокнамі.

— Сабіна! — паклікала яна. — Хадзеце сюды, тут хопіць месца й вам.

Сабіна асьцярожна, каб не наступіць на чыесь ногі ці рэчы, пайшла да яе. Ёй далі месца ў самым куце.

Недалёка ад сябе Сабіна заўважыла маладую жанчыну ў чорнай сукенцы. Кабета сядзела, абапёршыся галавою аб сьценку, апусьціўшы рукі на калені. Ейныя сьветлыя даўгія валасы рассыпаліся па шыі й плячох. Твар быў зямлісты, застыглы ў роспачы. Расьсьцілаючы сваю пасьцель, Сабіна незнарок наступіла на кабеціну коўдру, выбачылася, але тая не зварухнулася, нічога не адказала.

Сабіна паклала ўголаў свой хатуль, зьняла хустку й паліто. Толькі цяпер у цяпле яна адчула, як ные й просіць адпачынку перамерзлае ў дарозе цела. Яна схіліла на хатуль галаву, зачыніла вочы. Умомант вакол яе ўсё змоўкла й зьнікла ў цішы й пустаце . . .

Сабіна прачнулася. Яна чула голас Максіма, поўны пяшчотных гукаў. Некаторы час не варушылася, не расплюшчвала вачэй, думаючы, што голас ёй прысьніўся.

— Ліда, сястрыца, пакінь пакутаваць, — данесьліся йзноў да Сабіны словы.

Сабіна ўзьняла галаву. Каля кабеты ў чорнай сукенцы сядзеў Максім.

— Ліда, зразумей, мы ня можам заставацца тут бясконца. Мы павінны ісьці далей . . .

Кабета ня рушылася, глядзела перад сабою. Твар ейны, як і раней, заставаўся застылым.

— Паслухай мяне, зразумей: мы ня ў стане нічога болей зрабіць, — прасіў Максім. — Ты-ж ведаеш, кім Анатоль быў і для мяне . . .

Пры імяні Анатоль твар кабеты задрыжаў, яна схіліла галаву на плячо Максіма й загаласіла на ўвесь пакой.

Усе сьціхлі, наглядаючы іх, узрушаныя ў спачуцьці.

— Як яна пакутуе! — прашаптала да Сабіны Зіна.

Максім суцяшаў кабету, як дзіця, пяшчотна гладзіў яе галаву. Калі плач сьціх, ён паклаў яе галаву на падушку.

— Адпачынь. Ты мусіш набрацца сілаў, каб ісьці далей . . .

Максім заставаўся сядзець каля кабеты, пакуль тая ні заснула. Тады ўзьняўся й пайшоў з пакою. Ён прайшоў каля Сабіны так блізка, што яна, каб выцягнула руку, магла-б дакрануцца да яго. Але ён не заўважыў яе. Ён меў стомлены твар і, як тая маладая кабета, здавалася, нічога ня бачыў вакол сябе.

Сабіна ўсхапілася, нахаду ўскінула на сябе паліто й хустку. Яна бачыла зьдзіўленыя вочы Зіны й Натусі, але ёй ня было часу тлумачыцца. Яна сьпяшалася . . . Яна разумела, што Максім пакутуе, што ён у няшчасьці, і яна павінна быць пры ім, дапамагчы яму.

Калі Сабіна выбегла на ганак, Максім пасьпеў недалёка адыйсьці ад дому.

— Максім! — гукнула яна яму наўздагон.

Ён спыніўся, павярнуўся да яе й некаторы час стаяў моўчкі, не пазнаючы яе.

— Сабіна? — нарэшце сказаў ён. Вочы ягоныя заставаліся бяз радасьці, у іх было адно зьдзіўленьне.

Ня так уяўляла сабе Сабіна спатканьне з Максімам. Цяпер ён выдаўся ёй іншым, няведамым, блізу чужым.

— Як ты апынулася тут?

— Еду на бацькаўшчыну.

— Едзеш?

— Дзякуючы Сарачэнкам. Яны дапамаглі дастаць мне пропуск у немцаў.

— Сарачэнкі тут?

— Не, учора мы разьвіталіся: яны паехалі ў бок Палтавы, я — Менску.

— Ты адважная, Сабіна, — пахваліў Максім, і ласкавая ўсьмешка кранула ягоныя вусны. Усьмешка слабая, ледзь прыкметная, але для Сабіны яна была праменем цяпла ў сьцюжу. Адразу адлягло на сэрцы, павесялела.

— Ня цяжка было быць адважнай, едучы із Сарачэнкамі. Пра ўсё клапаціўся Грыц. Вось цяпер, калі я засталася аднэй . . . — Сабіна на момант затаіла подых. Ёй так хацелася, каб Максім запярэчыў: "Ты не адна, мы цяпер разам". Максім маўчаў. Яна мімаволі ўздыхнула й скончыла пасумнеўшым голасам: — Цяпер мне трэба пра ўсё думаць самой.

— Як даўно ты з Валаванава?

— Дзесяць дзён.

— Едзеш дзесяць дзён?

— Мы ня ўвесь час ехалі. Толькі пры нагодзе. У Малаяраслаўцы на машыну чатыры дні чакалі . . . Ведаеш, мы з Магдаленай там успаміналі цябе, шкадавалі, што не запыталіся адрасу твае стрыечнае сястры. Маглі-б зайсьці праведаць яе, а то й спыніцца . . .

— Мае сястры няма болей там. Яна тут.

— Гэта Ліда?

— Ліда. Адкуль ты яе ведаеш?

— Я бачыла цябе разам зь ёю. Я прыпынілася ў тым самым пакоі, дзе й яна . . . Яна выглядае такой нешчасьлівай! Што здарылася?

— У дарозе забіла ейнага мужа . . . І яна пасьля таго ніяк ня можа прыйсьці да сябе . . . На вачох марнее, а я губляюся, ня ведаю, як дапамагчы . . .

Сабіне хацелася ведаць, дзе, як забіла Лідзінага мужа, але, глянуўшы на зморany твар Максіма, на ягоныя засмучаныя вочы, запыталася пра іншае:

— Куды ты цяпер ідзеш?

— У сталоўку абедаць. Мо й ты пойдзеш разам?

— З радасьцю, — згадзілася Сабіна, — я ад сёмае гадзіны нічога ў роце ня мела . . .

Із завулку яны выйшлі на вуліцу, што вяла ўгару, да цэнтра горада. Сонца ўсё яшчэ стаяла ў небе, з дахаў стукала капель, а на ходніках, каля абшарпаных аднапавярховых драўляных дамоў, няпрыбраным ляжаў набраклы вадою гразкі сьнег.

— Пойдзем сярэдзінаю вуліцы, — прапанаваў Максім. — Там больш утаптана й суха.

— Мае валёнкі ўжо прамоклі, — паскардзілася Сабіна й паглядзела на Максімавыя ногі. На ягоных старых валёнках зіхацелі новыя галёшы. Зьдзівілася.

— Дзе ты разжыўся на такую раскошу?

— Шчасьлівы выпадак . . . Галёшы майго брата. Ён або забыўся на іх, або, убачыўшы мае безнадзейна падраныя валёнкі, пакінуў іх для мяне . . .

— Ты спатыкаўся з братам? Дзе?

— У Малаяраслаўцы.

— Чаму ён не з табою?

Максім уздыхнуў:

— Доўгая скамплікаваная гісторыя . . . Я нават пэўна ня ведаю, куды ён пайшоў. Хоць магу прыпускаць, што ў бок Масквы.

— У бок Масквы? — заскочана перапытала Сабіна.

Яна адразу прыпомніла забітага юнака на школьным двары. Ягоны сьсінелы твар і заіндзявелую крывёю пасму сьветлых валасоў на ілбу . . . І чым болей у ейнай памяці паўставаў той юнак, тым болей здаваўся ён ёй падобным да Максіма.



— Да спатканьня я ня ведаў, што Вадзім мне такі дарагі. Ён заблытаўся ў жыцьці, нарабіў шмат благога . . . а я ў сваім сэрцы не магу асудзіць яго так, як асудзіў-бы кагось чужога. І гэта мяне таксама гняце.

Максім казаў вельмі ціха, павольна, нібы ён думаў уголас, правяраў сябе, запыняючыся на кожным слове. А Сабіна не адрывала сваіх вачэй ад яго і ўсё болей і болей знаходзіла падабенства паміж ім і забітым.

— Твой брат падобны да цябе?

— Вельмі.

Сабіна палезла ў кішэню паліто й дастала блёкнот із адрасамі. Адрасы, асабліва менскі, яна ведала напамяць, але блёкнот заўсёды насіла пры сабе, разам із сваімі паперамі.

— Максім, пагляд зі на адрасы ў гэтым блёкноце, — сказала яна, падаючы блёкнот Максіму. — Ці яны нічога табе не гавораць?

— Нічога асаблівага, — адказаў Максім, разглядаючы адрасы.

— І менскі?

— Менскі? Я добра ведаю Савецкую вуліцу . . . Гэта галоўная вуліца там . . . Да рэчы, мой брат апошнія два гады жыў дзесь на Савецкай . . . Адкуль у цябе гэтыя адрасы? — раптоўна зацікавіўся Максім.

Сабіна думала: "Няўжо гэта быў ягоны брат? Расказаць яму пра забітага? Не, цяпер ня можна. Гэта канчальна згняце яго. Лепей пазьней." Яна завагалася із адказам:

— Я знайшла блёкнот.

Максім прыкмеціў ваганьне Сабіны. Твар ягоны зьбялеў.

— Знайшла пры забітым?

— Не . . . не . . . — запярэчыла Сабіна: — на сьнезе, на школьным двары. Ты-ж сам ведаеш, колькі там чырвонаармейцаў перакруцілася . . . — Сабіна старалася глядзець Максіму проста ў вочы, гаварыць пераканальна: — Убачыла менскі адрас, падумала, што калісь мо спатрэбіцца, як прыйду ў Менск . . .

— Цікава, што з адрасамі няма прозьвішчаў, нібы хтось не хацеў, каб ведалі, да каго яны, — разважаў Максім, працягваючы разглядаць блёкнот. — У Раеўскіх я ўспамінаў цябе й Сарачэнкаў . . . Ня выключана, што й Вадзім па дарозе наважыўся скарыстаць із вашае гасьціннасьці . . .

Цяпер Сабіна была амаль пэўнай, што той юнак быў брат Максіма. Яе йзноў ахапіла пачуцьцё віны перад забітым і яшчэ болей балюча пачуцьцё віны перад Максімам, бо яна ня здолела дапамагчы ягонаму брату. Апаўшым голасам яна сказала:

— Калі з знайшла блёкнот, мы ўжо ня жылі ў школе.

Неўзабаве яны падыйшлі да будынка, дзе мясьцілася сталоўка і яшчэ якіясь гарадзкія ўстановы. У пярэднім пакоі, куды выходзіла трое дзьвярэй, — хісткая, уся ў шчылінах падлога, цьвілыя па кутох сьцены. Шмат людзей таўклося тут у чарзе перад зачыненымі дзьвярыма, нямала сядзела на лаўках, каля сьценаў. Дзьверы ў сталовы пакой былі расчыненыя насьцеж. Праз іх відненіся рады невялікіх, нічым не засланых сталоў.

— Пашукай чыстага стала, — папрасіў Максім Сабіну, — а я вазьму нам абеды.

Ён пайшоў да сьцяны із вакном на кухню, адкуль клубам валіла пара, а зь ёю добра знаёмы Сабіне зь дзіцячых прытулкаў пах нішчымнае пярловае зупы із лаўровым лістам і паранае бручкі.

Асобаў пяць абедалі яшчэ за малымі сталамі. Яны сядзелі ў верхняй вопратцы, маўклівыя, хмурыя. Цёплымі калёрамі на панурым тле вылучаўся толькі адзін вялікі стол пасярэдзіне. Ад яго нёсься вясёлы гоман дзіцячых галасоў. Там абедалі маладзенькая дзяўчынка й зь ёю чатырох хлапчукоў. Старэйшаму на выгляд было гадоў дванаццаць, малодшаму — ня болей трох. Ад гарачае стравы насы й шчокі ў малых расчырванеліся, на тварах сьвяціўся выраз праўдзівае асалоды. Убачыўшы Максіма, хлапцы пачалі клікаць:

— Дзядзька Максім, хадзеце да нашага стала абедаць!

Сабіна не расчула, што Максім адказаў ім, але бачыла, як ён паказаў у ейны бок. Як па камандзе, галовы ўсіх павярнуліся да яе. Дзяўчынка першая ўсьміхнулася й павітала Сабіну здалёк рукою. За ёю дружна ўзьняліся ў прывітаньні чатыры меншыя рукі.

У часе абеду Максім быў нязвыкла маўклівы. Спатканьне із Сабінаю было прыемным для яго, але яно не магло зьняць цяжару, які апошнім часам лёг на Максімава сэрца. Столькі няшчасьцяў адразу: прыкрыя й супярэчлівыя паводзіны брата, трагічная сьмерць Анатоля, страх за жыцьцё Ліды. Усё гэта ня толькі ашаламіла, але й паклала грунт для вострага незадаволеньня сабою, выклікала недавер у свае сілы. Непакоіла й дарэмнае марнаваньне часу ў Рославе. Паўстала якоесь зачараванае кола, зь якога Максім ня бачыў выйсьця. Ён не сумняваўся, што бацька ці Анатоль знайшлі-б раду ў любых акалічнасьцях. А ён? Бязрадны! Тры дні таму ён пакінуў мёртвага Анатоля пад хвояй на ўскраі лесу, прыкрыўшы яго толькі сьнегам. Тады здавалася, што нельга было зрабіць інакш. Трэба было ратаваць жыцьцё зьняпрытомненае Ліды. За гэты час ён ня раз хадзіў шукаць цела Анатоля. Перакапаў сьнег не пад аднэй хвояй. Ягоныя вочы не абмінулі ніводнае гурбінкі пад імі. Дарэмныя высілкі, а зь імі

дні і ночы горкіх думак. Ён вінаваціў сябе, што дрэнна зазначыў месца, што ня здолеў адразу на другі дзень па няшчасьці йсьці на пошукі. Вайною так шмат трупаў па лясох і дарогах, так шмат разьвялося ваўкоў! Ён чуўся вінаватым перад Лідай, хоць яна ніколі не дакарала яго. Толькі аднойчы, у шпіталі, калі яна мела гарачку вышэй сарака, і доктар ня меў пэўнасьці, ці вытрымае ейнае сэрца, ды дазволіў Максіму застацца пры ёй, у стане трызьненьня яна прагаварылася: ”Чаму ў жыцьці заўсёды гінуць лепшыя людзі? . . Людзі із жывою іскрою ў душы, здольныя запаліць энтузіязм у народзе й павесьці наперад . . . Якая карысьць бацькаўшчыне ад мяне? А я застануся жыць . . . І ты, Максім, будзеш жыць . . . І тысячы іншых, разгубленых, бязрадных . . .“ Словы Ліды жорстка ўразілі, пакінулі балючы сьлед, прымусілі задумацца: ”Што я зрабіў для бацькаўшчыны? Добра разумеў імкненьні й ідэі нашых лепшых людзей, а сам працягваў жыць, як набяжыць“. Ён дакараў сябе шмат за што. Нават прыпомніў і тое, што некалі скарыстаў з дапамогі ненавіснага Чысьцякова: праз яго атрымаў накіраваньне ў авіяцыйны інстытут.

Сабіна бачыла глыбокі сум на Максімавым твары. Новы Максім. У Валаванаве ён быў вясёлы, пэўны, рашучы. У таго Максіма яна паверыла, за тым пайшла, з тым зьвязала ўсе свае надзеі. Таму больш ад усяго на сьвеце яна хацела ізноў пачуць ягоны вясёлы голас, убачыць сьмех у ягоных вачох.

— Пасьля аднае бамбардыроўкі Мядыні, Грыц празваў мяне страўсам, — сказала яна.

Максім нічога не адказаў на гэта, не засьмяяўся, як чакала Сабіна.

— Ты ішоў праз Мядынь?

— Усе месцы, дзе можна было напаткаць немцаў, мы абыходзілі.

— А Рослаў?

— Сюды нас бяда загнала.

Сабіна заўважыла, што Максімаў твар стаў яшчэ больш сумны, і ёй хацелася разважыць яго. Па сабе яна ведала, што жарт і сьмех робяць настрой лепшым.

(Далей будзе).

***

*Я. ЛЯШЧЫНА.*

# Янка Золак

(Да саракагодзьдзя літаратурнай дзейнасьці).

У сакавіку 1970 году споўнілася сорак гадоў літаратурнай дзейнасьці Янкі Золака (Антона Даніловіча).

Першы верш паэта „На былым балоце“ зьявіўся ў сакавіковым нумары за 1930 год у часапісе „Вясна“ — літаратурным дадатку да Бабруйскае газэты. Верш гэты быў падпісаны псэўдонімам Антось Вірок. Пасьля гэтага ён друкаваўся ўжо пад сапраўдным прозьвішчам у Бабруйскай раённай і Магілёўскай абласной газэтах. Як кажа сам аўтар, вершы тыя былі данінай часу. У памяці паэта не засталося амаль нічога з тэй „даніны“. І ён не шкадуе. Ня шмат ён і натхняўся тымі балотамі ды экскаватарамі, бо-ж і дзядзьку роднага загналі ў Сібір, адкуль той і не вярнуўся, а бацьку ціснулі „цьвёрдымі заданьнямі“, аж пакуль душу ня выціснулі і не загналі на паншчыну ў калгас. Таму страшнаму жыцьцю паэт прысьвяціў сымбалічны верш „Закліналньне зімы“, які пабачыў сьвет у зборніку „Песьняры Случчыны“ ужо пры новых гаспадарох. Гэты верш варта прывесьці цалкам:

Што ты, нямілая, лютая зімка,
Ў сковах трымаеш зямлю?
Ці табе поўначы цёмнае, дзікае
Вольны прастор стаў ня люб?
Што ты халодную жудасьцю вееш,
Сьнегам заносіш палі,
Смуткам з жахлівасьцю сееш
Ўсюды на роднай зямлі?
Згінь, прападзі! Хай на доўгія векі
Пахне вясновай парой,
Шчасьцем і доляю для чалавека,
Краснаю ружай-зарой.
Хай маё сэрца ад холаду лютага
Не супыняе біцьцё,
Хай у Радзіме, ад путаў раскутае,
Б'еццa струменем жыцьцё.
Згінь, прападзі! Дай убачыць у росквіце
Мне дарагую краіну маю.
Променям сонца над роднаю постацяй
Песьню хвалы я сьпяю.
Дай мне убачыць над роднай зямліцаю
Працы свабоднае плён.
Дай мне пачуць, як ліецца крыніцаю
Ворагу вечны праклён.

25 сьнежня 1941 г.







Але „Зіма“ з „поўначы цёмнае, дзікае“ моцна трымалася за беларускую зямлю:

І хаця ўжо далёка ад нас
Адляцелі грымоты снарадаў, —
Часам з лесу ідуць на папас
Дзікаю гурмаю лютыя гады:
Нішчаць хаты, рабуюць дабро,
Забіваюць жанок, малалетак,
Разьліваюць нявінную кроў
І драсуюць сялянскі палетак...

(„Чорнай птушкаю ночка плыве“...
9 чэрвеня 1943 г.)

Паэт у роспачы і суме, ён шукае долю:

...Хай сумуюць бярозы у гаю...
Па шляхох Беларусі пайду:
Або долю сваю напаткаю,
Або крыж пад бярозай знайду.
Я іду, а над роднай краінай
Цёмнай хмарай ляцяць крумкачы,
Не даюць мне прасьветлай хвіліны
І спакою ні ўдзень, ні ўначы...
(„У пошуках долі“).

Тыя-ж „крумкачы“ ня раз палохалі паэта:

...Ня псуй паперу,
Закінь у запечак пяро,
Бо прыдуць нашы і, халеру,
Цябе пасадзяць у вастрог.
Або прашыюць куляй грудзі
І цела кінуць бяз труны...

Але Янка Золак не з палахлівых. У яго ёсьць што адказаць ілжэпрарокам:

Хоць шмат я жыў, —
Жыцьця ня бачыў,
І сьмерць ня страшна для мяне.
Цяжэй за ўсякія няўдачы, —
Калі цябе
народ кляне.
І не скажу ім больш ні слова.
Палезуць зноў, —
Я плюну ў твар,
Ды свой
да скону
ганарова
Я з рук
ня выпушчу штандар.
(„Мой адказ“).

Штандар, бел-чырвона-белы... Вось што паланіла душу паэта. За яго, за вольную Беларусь паэт гатовы ісьці на пакуты і сьмерць.

Новыя гаспадары ня прынесьлі волі для Беларусі. Не для гэтага яны сюды ішлі. У іх твары — „пыхліва надзьмутыя“...

Апрануўшы схудалыя плечы
Лахманамі убогай апраткі,
Я пайду па шляхох чалавечых,
Пераходзячы сьлізкія кладкі.
На плячох пахудалых, сагнутых
Непасільнаю працаю ў крук,
Міма твараў пыхліва надзьмутых
Пранясу, як нагноены струп,
Сваю крыўду, адвечнае гора...
(„Я-б ня плакаў“).

Крыўда, адвечнае гора — не асабістае — агульнабеларускае: няволя. Але паэт верыць, надзеецца:

Хоць восень лютуе ў прасторах —
Прадвесьніца лютай зімы, —
Мы ведаем, верым, што скора
Дачакаемся прадвесьня і мы.
Хоць можа зіма і наложыць
На землю аковы і сны,
Мы верым: яна нас ня зможа,
Даждзёмся прыходу вясны.“
(„Даждзёмся“, 1 кастр. 1941 г.).

Адкуль-жа такая вера ў паэта? А вось адкуль:

Грамадою шчыльнай, дружнай —
Да пляча плячо —
Крочым сьмела мы і мужна
Да шчасьлівых дзён.
(„Да шчасьлівых дзён“).

Беларусы ішлі „грамадою шчыльнай, дружнай“ са зброяй у руках, з бел-чырвона-белым штандарам. І Янка Золак крочыў у першых шэрагах гэтай грамады. Для яго Беларусь — усё. Ён можа даравадь абразу асабістую, але ніколі нікому не даруе, калі хто асьмеліцца абразіць

яго сьвятое-сьвятых:

Калі часам у словах людзей
Мне пачуецца крыўда, абраза, —
Тады ў сэрцы маім зазьвініць, загудзе
Струн акорд і замоўкне адразу.
I ні болі, ні злосьці няма
На таго, хто пакрыўдзіць задумаў,
Толькі сэрца маё сьцісьне лёдам зіма,
I чало апаўецца задумай.
Калі-ж хто будзе ганьбіць мой край,
Ці пасьмее над ім наглуміцца, —
У мяне тады ўспыхне на шчоках зара,
Запалаюць у гневе зраніцы.
Закіпіць тады ў сэрцы ў мяне
Хваля крыўды пякучай адразу,
I таму, хто сьвятыню душы закране, —
Не дарую ніколі абразу.
(„Калі часам...“, 1 сакавіка 1944 г.).

Патрыятызм — галоўны лейтматыў творчасьці Янкі Золака. Вышэй пададзеныя вершы ўзяты са зборніка „Агонь душы“. Грамадзкая лірыка ў гэтым зборніку дамінуе. Ёсьць тут вершы прырода-апісальныя, з якіх мэтафарычнасьцю выдзяляюцца вершы „Вечар“, „Млечны Шлях“, „Восень“.

Ёсьць у паэта і другі зборнік — „Крылатае сэрца“, які таксама, як і першы, чакае на мэцэната. У гэтым зборніку сабраны вершы ад 1944 да 1956 гадоў. Гэта — вершы выгнаньня, вершы суму па страчанай Беларусі, маладосьці, што „як шалёныя ў пене коні, праняслася...“, вершы эратычныя, вершы роздуму, роспачы.

Вось хоць-бы верш „Недасланы ліст“:

Татуля родны!
Мама дарагая!
Нашто, няшчасны, я прыйшоў на сьвет?
Чаму яшчэ ў юнацкім маю
Апаў-асыпаўся жыцьцёвы цьвет?
За грэх які я змушан сёньня
На лёс цяжкі, суровы наракаць,
I ў чужыне, у роспачы выгнаньня
Вясны ня нашай росквіт сустракаць?
Ня ведаю, што вам пісаць аб долі
Маёй, знаёмых і сяброў...
Прад намі — разьляглося поле,
А мы — за дротам лягероў.
Жыцьцё сабачае... Нібы ў палоне...
Яда — „гэмюзэ“ — бручка на штодзень,
Ды й той так мала, што ўжо сёньня
Не чалавек я — толькі цень.
Нуда мне сушыць розум; сэрца
Смыліць тугой аб доме і аб вас...
Няўжо мне болей з вамі ня сустрэцца,
Няўжо прамень надзеі згас?
О, цяжкі лёс! Такія мукі!
Як пераважыць, як пераважыць?
Калі-ж загіне боль разлукі,
Што рэжа сэрца, як нажы?
Татуля родны!
Мама дарагая!
Праз дрот кардонаў, праз лясы,
Што у няволі дагарае,
Цалуе вас выгнанец-сын.
5 чэрвеня 1945 г., г. Рэгенсбург.

У гэты пэрыяд для паэта:

Жыцьцё — найбольшае вар'яцтва,
I той вар'ят, хто 'шчэ жыве.

Паэт ня хоча жыць, ён замахваецца:

Парву жыцьцё. Няхай адзвоняць
Па мне апошні раз званы.
(„Жыцьцё — вар'яцтва“).

I гэта гаворыць паэт толькі праз год пасьля вершу „Я не паддамся трывогам“, дзе ён аптымістычна сьцьвярджае: „Крочу праз буры-віхуры з верай у лепшыя дні“.

Але-ж чалавек — не аўтамат. А тым болей паэт. Сёньня — шчасьлівы, а заўтра — у роспачы.

Янка Золак не парваў жыцьцё. Ці не „Бэатрычэ“ яго ўратавала, якой ён за месяц да гэтага прызнаваўся:

Душа імкне у высі, кліча,
I ў высях зорачкай лунае.
Ля хваляў сіняга Дунаю
Здалося мне: Вы — Бэатрычэ.
З пашанаю сьвятой, глыбокай,
З душой, узрушанай, бы хвалі,
Глядзеў на Вас я. Вы сьпявалі
Аб родным небе сінявокім.
У плыні песьні ціхазвоннай
Узьлёт красе я сэрцам зычыў,
Бо Вы — ня толькі Бэатрычэ,
Вы — мне здавалася — Мадонна.
Душа імкне, кудысьці кліча...
Куды? Я сэрцам адчуваю:
На бераг сіняга Дунаю
Да Вас, Мадонна, Бэатрычэ.
13 травеня 1946 г., г. Рэгенсбург.



Хаця кажуць, што лік 13 нешчасьлівы, але для Янкі Золака ён стаў шчасьлівым:

Я шчасьлівы сёньня, як ніколі,
Шчасьце хмелем пеніцца праз край.
Толькі нешта шэпча мне: „Паволі,
Ты зьнячэўку шчасьця ня спужай“.

Янка Золак сваё шчасьце ня спужаў, бо:

Вось затым я гэтакі халодны
I закуў пачуцьці ў ланцугі,
Каб яны ракою паўнаводнай
За свае ня выйшлі берагі.

Стрымліваючы пачуцьці, чалавечымі адносінамі, паважнай паставай ды хто ведае яшчэ чым, паэт „вымаліў“ сэрца „Бэатрычы“.

У сямейным супакоі Янка Золак не перастае маліцца за Беларусь:

О, Божа Ўсяўладны, о, Божа Магутны!
Ад гора, нядолі, напасьцяў
Пазбаў Беларусь нашу — Край шматпакутны,
Ня дай ёй зачахнуць, прапасьці!..
(23 жніўня 1946 г., г. Рэгенсбург).

Гэты верш паложаны на музыку сьветлай памяці кампазытарам Міколаю Равенскім.

У малітоўным, як кажуць, настроі паэт укладае ў вершаваную форму „Псальмы Узыходжаньня“.

Ёсьць у Янкі Золака і пераклады некаторых вершаў Тараса Шэўчэнкі, Пушкіна, Олэксы Влызько („Матросы“), Вол. Сьвідзінскага.

Фармальна вершы Янкі Золака беззаганныя. Жанрава — разнастайныя, з перавагай грамадзкай лірыкі. Там, дзе ня можа ўзьдзейнічаць лірызм, паэт карыстаецца гумарам, сатырай:

### ЭПІГРАМА НА СЯБЕ

Болей месяца ў дарозе
Пад „алярмамі“, ў трывозе...
Ад свае-ж вандроўнай долі
Я нікуды не ўцяку,
Хоць і косьці намазоліў
Ад сядзеньня ў цягніку.

Альбо гумарэска пад народную „Чаму-ж мне ня пець?“:

Чаму-ж мне ня пець,
чаму-ж ня гудзець,
Калі наш Равенскі
стройна хор вядзець?
Чаму-ж мне ня пець,
чаму ня гудзець,
Калі бас у хоры,
нібы вол равець,
А сапрана з альтамі,
як чмялі ў траве;
Тэнар заліхвацка так
да нябёс плыве.
Чаму-ж мне ня пець,
чаму-ж ня гудзець,
Калі ў бубны дахаў
завіруха б'ець,
А мне ў сэрца чулае
цяплыня плывець.
Чаму-ж мне ня пець,
чаму-ж ня гудзець?

Ёсьць у Янкі Золака і празаічныя гумарэскі, выдрукаваныя самім аўтарам у собскай друкарні, пад назовам „За чужы грэх“. Але усьмешак у яго вельмі мала.

У Амэрыцы, цяжка працуючы, паэт ня шмат мае часу для Музы, але, калі-б сабраць усё, напісанае тут, друкаванае ў часапісах і газэтах ды ня друкаванае, атрымаўся-б нядрэнны зборнік. Будзем спадзявацца, што зборнікі Янкі Золака пабачаць сьвет. I ня тры, а болей, бо паэт яшчэ ў росквіце фізычных і духовых сілаў, гарыць змагарным агнём (рэдагуе „Беларускую Думку“), мужна перамагае няўзгоды жыцьця, высака нясе бел-чырвона-белы сьцяг.

М. Кавыль у вершы „Случчакі“ пра Янку Золака пісаў:

I трэці ёсьць. Аднэй нагой у прыйсьці,
Другой у сёньняшнім увяз:
На ўсе пэдалі цісьне без карысьці
Вызвольны марш за сказам сказ.

Дык, памажы яму, Божа!

*Янка Золак*

**КАЛАМБУРЫ**

1.

Дурыў нас дзядзька, што па году
Чакалі людзі на пагоду.

2.

У вёску трапіўшы, Абрам
Шукаў ня весьнічак, а брам.

3.

Усе казалі, што пан Чоха
Ня пан, а — мокрая панчоха.

4.

І думаў з гордасьцю МэкКарты,
Што у яго ў руках ўсе карты.

* * *

*А. Камароўскі*

**КАМАРОЎКА*)**

Пра Камароўку Ніл Гілевіч,
Бы салавей, прашчабятаў.
Калі паверыць слоў улеве,
Там — дабрыня і любата.

Там, дзе скрыпелі балаголы,
Дзяды скакалі па куп'ю,
Цяпер тралейбус круціць колы,
„Буслы" з „Зубрамі" чаркі п'юць. . . **)

Вядома, „бусла" я ня супраць,
Што налівае чаркі з „зубрам"
Там, дзе паплюхвала вада.
Хай Камароўцы сонца сьвеціць.
Але ня шкодзіць, брат-паэт,
І пад карэньне заглядаць. . .

Так, Камароўка — не мяшчанка
Матрона Маркаўна... Яна —
Бяды глынуўшая мянчанка —
Ня раз п'янела бяз віна.

Ня раз у лапцях па балоце
Цягнула долі горкай воз,
Хоць там, на ўзвышку, у самоце
Балетна-опэрны і ўзрос.

Змахнуўшы ветрам славаблудзьдзе
Дваром абласканых пісак,
Век Камароўка не забудзе,
Як сьмерці шастала каса;

Як цішыню ірвалі стрэлы
Над Камароўкай назары,
Як дыхаў мох крывёю прэлай
У камароўскім тым бары.

Глушыў ахвяраў крыкі грохат,
І з соснаў сыпала кара
Не за часоў цара Гароха,
А ў час чырвонага цара.

Каб замясьці і кроў і сьлёзы,
На сьвежа ўскопаны пясок
Саджалі злыднікі бярозы,
Кусты маліны, верасок.

Прайдзі, паэт, каля Сьляпянкі.
Там, у сасоньніку густым,
Растуць бярозы, бы вакханкі...
На іх — чырвоныя лісты.

Папробуй соку з тых красуняў.
Салодкі сок із мерцьвякоў?
Ляжыць нямала там бяз трунаў
Тваіх суседзяў, землякоў.

Не апранайся ў плашч знаёмы.
Там не фашыст гуляў якісь.
Яны ў трыццатым, трыццаць сёмым
Ляглі ад „роднае" рукі. . .

Няхай растуць у неба гмахі
Для камароўцаў, для мянчан.
Ды, каб ня гулялі ноччу жахі,
Ня трэба, брат, пра іх маўчаць.

* * *

*) З нагоды верша Ніла Гілевіча пра Камароўку — прыгарад Менску, надрукаванага ў „Голас Радзімы", №32 за жнівень 1969 г.

**) „Буслы" і „Зубры" — маркі беларускае савецкае гарэлкі.



# На рэлігійнай ніве

## Голас сьведкі

У сувязі з тым, што ў канцы леташняга і пачатку сёлетняга гадоў наша эміграцыя была сьведкаю дыскусіі, якая адбывалася паміж Амэрыканскай Мітраполіяй і Расейскай Зарубежнай Царквой, нам хочацца сказаць адносна гэтага некалькі слоў.

Як ведама, дыскусія ўзьнікла й разгарэлася пасьля таго, як стала ведамым, што прадстаўнікі Амэрыканскай Мітраполіі вядуць перагаворы з прадстаўнікамі Маскоўскае Патрыярхіі, каб дабіцца ад Патрыярхіі аўтакефаліі для Амэрыканскае Мітраполіі. Справа ў тым, што Амэрыканская Мітраполія лічыла й лічыць сваёю Маткаю-Царквою Расейскую Праваслаўную Царкву, Патрыярхат якое знаходзіцца ў Маскве.

Сынод Расейскае Зарубежнае Царквы запратэставаў супроць такога кроку Амэрыканскае Мітраполіі, матывуючы свой пратэст тым, што Маскоўскі Патрыярхат не ўзначальвае сапраўдную расейскую Царкву, а зьяўляецца залежнай ад камуністычнай партыі інстытуцыяй і таму аўтакефалія, атрыманая ад маскоўскага Патрыярхату ня можа лічыцца кананічнаю. Прадстаўнікі Амэрыканскай Мітраполіі высоўвалі свае довады супроць гэтага цьверджаньня.

І дыскусія разгарэлася, захапіўшы і шырокія колы ня толькі кіраўнікоў Царквы, але і вернікаў.

Не зважаючы на тое, што сёньня мы ўжо стаім перад дакананым фактам (Амэрыканская Мітраполія атрымала Томас Маскоўскага Патрыярха на права звацца Аўтакефальнаю Царквою), мы друкуем Ліст ігумена Язэпа, які прыехаў у ЗША зусім нядаўна, бо ў гэтым лісьце паказваецца, хто сапраўды кіруе рэлігійным жыцьцём у Савецкім Саюзе. Гэты ліст — гэта голас сьведкі, якому ўдалося вырвацца з-пад уплыву Савецкага Саюзу.

*Рэдакцыя.*

□ □ □ □

ЯГО СЬВЯЦЕЙШАСТВУ
ЭКУМЕНІЧНАМУ ПАТРЫЯРХУ АТЭНАГОРАСУ II
(Падаецца адрас Патрыярха)

**Ігумен Язэп Строк**
(Падаецца тагочасны адрас).

Красавік 7, 1969 г.

Справа: Ліст Яго Эмінэнцыі Сьцяпана, Мітрапаліта Варшаўскага і Ўсяе Польшчы, № 62 з дня 4 лютага 1969 г. да Вашага Сьвяцейшаства.

Прыпадаючы да ног Вашага Сьвяцейшаства, ветліва прашу прыняць пад увагу гэтае маё пісьмовае выясьненьне, бо пададзеныя ў лісьце Мітрапаліта Сьцяпана з Польшчы абвінавачаньні супроць мяне не адказваюць фактычнаму стану і маюць сваю тэндэнцыю.

Я нарадзіўся дня 31 сьнежаня 1904 году ў Шылавічах каля Жырава, на Беларусі, падчас панаваньня там Расейскай Імпэрыі. Рэлігійную адукацыю я атрымаў у Духоўнай Сэмінарыі ў Вільні, якую скончыў у 1927 годзе. Я быў рукапаложаны на дыякана дня 16 кастрычніка 1927 году, а на сьвятара — дня 23 кастрычніка 1927 г. рукамі архіяпіскапа Аляксея (Грамадзкага) у Праваслаўнай Аўтакефальнай Царкве ў Польшчы. Гэтая Царква атрымала Томос ад Патрыярха з Канстантынопалю ў 1922 г.

Ад гэтага часу я працаваў сьвятаром у Заходняй Беларусі, якая знаходзілася ў межах Польскай дзяржавы.

Пасьля выбуху 2-ой Сусьветнай вайны і пасьля заняцьця ўсяе Беларусі нямецкімі войскамі ў 1941 годзе, я працаваў сьвятаром у гор. Барысаў, на ўсходняй Беларусі, якая раней належала да СССР і дзе ў тыя часы зусім ня было сьвятароў і ўсе цэрквы былі зачыненыя савецкімі ўладамі. Маім архірэем у гэты час быў беларускі япіскап Сьцяпан (Севба). Пасьля заняцьця Беларусі са-

вецкімі войскамі ў 1944 годзе, я быў арыштаваны дня 27 сьнежня 1944 году і высланы на 5 гадоў у канцэнтрацыйныя лягеры за тое, што працаваў сьвятаром на савецкіх абшарах падчас нямецкай акупацыі Беларусі. Кару я адбываў у канцэнтрацыйных лягерох у Савецкай Расеі на Белым моры. Пасьля звальненьня мяне з лягероў дня 27 сьнежня 1949 году, я служыў сьвятаром у гор. Рославь, на Беларусі і адначасна студыяваў завочна Сьвятое Багаслоўе ў Духоўнай Акадэміі ў Ленінградзе. У гэтым часе КГБ (савецкая палітычная паліцыя) зажадала ад мяне, каб я стаў ейным сакрэтным супрацоўнікам. Я адхіліў гэтую прапанову, і зараз пасьля гэтага Маскоўскі Патрыярх забараніў мяне ў сьвяшчэннаслужэньні.

Пасьля гэтага, я пераехаў у вёску Ляды, на Беларусі, і там працаваў кіраўніком царкоўнага хору ў мясцовай царкве.

У 1959 годзе я пераехаў у Польшчу, як былы грамадзянін Польскае дзяржавы. Я паступіў у манастыр сьв. Ануфрыя ў Яблачыне, а манашы стан прыняў дня 18 сакавіка 1962 года з імям Язэп.

На запрасіны архіяпіскапа Сьцяпана (Сеўба), майго архірэя з папярэдняга часу, які цяпер кіраваў Аўстрыйскай епархіяй Расейскай Праваслаўнай Царквы Замяжой, у 1964 г. я выехаў у Зальцбург, у Аўстрыю. Я атрымаў дазвол на гэта падарожжа ад архіяпіскапа Георгія (Караністава), заступніка Мітрапаліта. Архіяпіскап Сьцяпан у Зальцбургу вярнуў мне сьвятарскі сан і надаў чын ігумена дня 18 сакавіка 1965 году. Ад гэтага часу я выконваў абавязкі духаўніка ў Зальцбургу аж да сьмерці архіяпіскапа Сьцяпана (Сеўба) у 1966 г.

У гэты час я атрымаў ад Мітрапаліта Сьцяпана з Польшчы запрасіны для прыезду ў Польшчу для рэлігійнай працы. Існуючая ў гэтым часе Польская Праваслаўная Царква атрымала сваю аўтакефалію ў 1948 годзе ад Маскоўскага Патрыярха. У 1966 годзе я прыехаў у Польшчу на часовы пабыт і распачаў працу ігумэнам у Яблачынскім манастыры. Пазьней, на маю просьбу, архіяпіскап Антоні (Барташэвіч), які ўзглаўляў Расейскую Праваслаўную Царкву Замяжой, прыслаў із Швайцарыі сваю згоду на маё прабываньне ў Польшчы. За старанную працу ў манастыры, я атрымаў узнагароду — залаты крыж з аздобамі.

У гэтым часе я атрымаў запрасіны з Амэрыкі ад маіх сваякоў, школьных калегаў і маіх былых прыхаджан з Беларусі, каб наведаць іх і даць ім рэлігійную апеку. Гэтыя запрасіны былі высланыя мне ў Аўстрыю, дзе я раней прабываў і адтуль былі перасланыя мне ў Польшчу. Я распачаў старанні аб часовым выезьдзе ў Амэрыку, аднак, духоўныя ўлады ў Польшчы не давалі мне ніякай надзеі на выезд. Праз увесь час працы ў Польшчы я ня меў адпачынкавага водпуску, таму я прасіў даць мне водпуск для скарыстаньня на падарож у Амэрыку. Аднак і гэтая просьба засталася бяз выніку. Тады дня 3 верасьня 1968 г. я падаў заяву Мітрапаліту Сьцяпану і ўсім япіскапам у Польшчы з просьбай зволніць мяне са становішча ігумена і скарбніка манастыра дзеля майго веку і скіраваць мяне на спачынак. Аднак і гэтая заява была пакінута без адказу.

Аднаго разу Мітрапаліт Сьцяпан сказаў мне, што ўся мая карэспандэнцыя з асобамі з Амэрыкі яму ведамая і што я не атрымаю ад яго дазволу на падарожжа ў Амэрыку. Гэтае асьвятчэньне канчаткова пераканала мяне, што ў Польшчы мяне трактуюць як палітычна падазроную і няпэўную асобу. Праводжанае сталае сачэньне за мною было пагрозай новага арышту, а можа і пазбаўленьня мяне ізноў духоўнага стану. Таму я пастанавіў выехаць у Амэрыку без дазволу мясцовых духоўных уладаў. Перад выездам я зьвярнуўся да яп. Мацея, галавы Праваслаўнае Царквы з Польшчы Заграніцай, прабываючага ў Лёндане, Англія. Дня 15 кастрычніка 1968 г. я выслаў просьбу аб прыняцьці мяне ў юрысдыкцыю япіскапа Мацея, а дня 15 лістапада 1968 г. я атрымаў паведамленьне ад яго аб памысным палагоджаньні мае просьбы. Я паступіў так, бо спадзяваўся рэпрэсіяў з боку тых уладаў, сфэру ўплываў якіх я пакідаў.

Перад самым маім выездам з Польшчы я перадаў касу і касавую кнігу манастыра на рукі архімандрыта Еўлогія (Гарбавец). Касавае сальдо станавіла каля 200 злотых, а да гэтай квоты я дадаў собскіх 500 злотых, як ахвяру для манастыра. У здадзенай мною касавай кнізе ёсьць пададзеныя мае асабістыя ахвяраваньні для манастыра ў вышыні 22,000 злотых на працягу гадоў: 1966, 1967 і 1968.

Пасьля прыезду ў Амэрыку я атрымаў з канцыляры мітрапаліта Сьцяпана з Польшчы ліст з дня 10 сьнежаня 1968 г. , у якім ён забараняе мяне ў сьвяшчэннаслужэньні. Аднак, паколькі я знаходзіўся ў юрысдыкцыі япіскапа Мацея, то я не прыняў гэтай забароны пад увагу.

У хуткім часе пасьля гэтага, я даведаўся ад Грэцкай Праваслаўнай Архіяпіскопіі на Паўночную і Паўдзённую Амэрыку, што мітрапаліт Сьцяпан з Польшчы выслаў ліст дня 4 лютага 1969 г., № 62 Вашаму Сьвяцейшаству. У гэтым лісьце ўзьнятыя супроць мяне наступных абвінавачаньні:

1. што я самавольна пакінуў месца працы без дазволу царкоўных уладаў;

2. што я ня здаў касы і фінансавага разьліку манастыра; і

3. што я маю намер быць хіратанісаваным Архіяпіскапам Якавам, Экзархам Грэцкай Праваслаўнай Царквы ў Амэрыцы, на япіскапа для беларускіх Праваслаўных Цэркваў у Амэрыцы.

Закіды, пададзеныя ў пунктах 1 і 2, я выясьніў папярэдне ў гэтым лісьце. Закід пункта 3 для мяне не зразумелы. Я прасіў мітрапаліта Сьцяпана аб дазволе на часовы выезд. Нічога ня было мне ведама тады аб тым, што праваслаўныя беларусы Амэрыкі хацелі-б мець мяне за япіскапа для іх. Я гублюся ў прыпушчэньнях аб тым, скуль мітрапаліт Сьцяпан мог атрымаць такую інфармацыю. Але, калі-б падобная справа і сталася актуальнай, то ці-ж для Польскай Праваслаўнай Царквы ня было-б заслугай, што яна дала кандыдата на япіскапа для праваслаўных беларусоў Амэрыкі, якія раней належалі да Праваслаўнай Царквы ў Польшчы? Ці падобная місіянэрская дзейнасьць не павінна атрымаць поўную падтрымку мітрапаліта Сьцяпана і Польскай Праваслаўнай Царквы?

Я ўпэўнены ў тым, што стараньні мітрапаліта Сьцяпана аб забароне мяне ў сьвяшчэннаслужэньні і недапушчэньні мяне да хіратоніі на япіскапа для праваслаўных беларусаў Амэрыкі не зьяўляюцца яго самастойнымі дзеяньнямі. Ад мітрапаліта Сьцяпана гэтага вымагаюць ураднікі Савецкай Расеі. Польшча сягоньня не зьяўляецца незалежнай дзяржавай. Яна акупавана арміямі Савецкай Расеі. Урад Савецкай Расеі як у Польшчы, так і заграніцай праводзіць сваю палітыку праз Польскую Праваслаўную Царкву і праз іншыя ўстановы Польшчы. Мітрапаліт Сьцяпан знаходзіцца на палажэньні паднявольнага і ён змушаны выконваць дамаганьні расейскага ўраду.

Урад Савецкай Расеі ня хоча дапусьціць да існаваньня самастойнай Беларускай Праваслаўнай Царквы на Беларусі. Ён ня хоча дапусьціць да разбудовы Беларускай Праваслаўнай Царквы ў Амэрыцы і ў іншых краінах вольнага сьвету. Пайменна таму і спадалі на мяне, як на беларускага духаўніка, кары савецкіх палітычных і царкоўных уладаў. Духоўныя ўлады Расейскай Праваслаўнай Царквы і Польскай Праваслаўнай Царквы, якія знаходзяцца ў сфэры ўплываў ураду Савецкай Расеі, змушаны выконваць дамаганьні гэтага ўраду. Таму ўрад Савецкай Расеі саслаў мяне на 5 год у канцэнтрацыйныя лягеры, маскоўскі Патрыярх забараніў мяне ў сьвяшчэннаслужэньні, а цяпер той самы расейскі ўрад хоча пакараць мяне і не дапусьціць да царкоўнай дзейнасьці рукамі мітрапаліта варшаўскага Сьцяпана.

Пакорна прашу Ваша Сьвяцейшаства адхіліць імкненьні мітрапаліта варшаўскага Сьцяпана аб дыскваліфікаваньні мяне як духаўніка пасьля маей уцечкі з-пад камуністычнай жалезнай заслоны ў Амэрыку.

Прашу сьвятых малітваў Вашага Сьвяцейшаства,

**Ігумэн Язэп Строк**



# Адзін год

22 лютага 1970 г. парафія сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл (Н. Ё.) адзначыла ўрачыста першую гадавіну сьвятарства свайго настаяцеля а. Сьвятаслава Каўша й год незалежнага рэлігійна-грамадзкага жыцьця рэарганізаванага прыходу, што раней існаваў у Брукліне.

Гэта быў год выпрабаваньняў для прыхажанаў і настаяцеля: працу трэба было пачынаць ад асноваў, ня маючы матар'яльных сродкаў. Кіруючыся прынцыпам „адзінае стада і адзіны пастыр", прыхажане і настаяцель выконвалі цяжкі і, разам з тым, радасны і пачэсны абавязак аб'яднаньня беларусаў Нью Ёрку вакол царквы Сьв. Кірылы Тураўскага.

Карыстаючыся гасьціннасьцю людзей добрае волі, Царкоўная Управа і настаяцель знаходзілі месца для Божых Службаў у сьвятынях Квінсу. Надоўга захаваюцца ў памяці Сьветлая Завутраня ўва ўкраінскай царкве сьв. Андрэя на 139-й вуліцы ў Джамэйка і радасная эвангельская аповесьць ад Іоана „На пачатку было слова. . ." пабеларуску.

Ня хутка зацярушыцца ў клопатах штодзённага жыцьця ўспамін жалобнае лістападаўскае акадэміі, прысьвечанае Слуцкім Паўстанцам і малітвы за супакой іхніх душаў у прэсбітэрыянскай царкве на 164-й вуліцы. Знойдуць водгульле ў памяці агоньчыкі калядных сьвечак і гімны іарданскага пасьвячаньня вады ў епіскапальнай царкве на Сайпрэс Гіл. Не расьцярушылася адзінае стада за гэты год, яму сьвеціць вялікая ідэя займець уласную царкву так, як старазаконным сьвяціла ідэя ўвайсьці ў Зямлю Абяцаную.

З вераю ў Бога і перакананьнем у слушнасьці свае справы прыхажане царквы Сьв. Кірылы Тураўскага выконваюць свой хрысьціянскі і беларускі абавязак. Не зважаючы на стомленасьць за час працоўнага тыдня, на адлегласьці вялікага гораду і непагоду, яны зьяўляюцца на Божыя Службы, каб памаліцца разам із сваім настаяцелем і прынясьці пасільную ахвяру ў фонд пабудовы царквы. У сваім высілку прыхажане царквы Сьв. Кірылы Тураўскага не асталіся забытымі беларускай грамадзкасьцю Амэрыкі і ўсяго вольнага сьвету. Доказам зразуменьня і падтрымкі беларускае грамадзкасьці зьяўляюцца грашовыя ахвяраваньні, якія паступаюць ад адзінак і арганізацыяў у будаўнічы фонд.

Усе беларускія кананічныя прыходы, не зважаючы на ўласныя матарыяльныя цяжкасьці, прыслалі пасільныя ахвяры сваёй сястры — царкве Сьв. Кірылы Тураўскага.

Беларусы Нью Ёрку здаюць сабе справу з таго, што

ўвесь цяжар пабудовы царквы ляжыць на іх уласных плячох, бо дапамога звонку прыходу зьяўляецца, у першую чаргу, сымбалічнай. Прымаючы пад увагу кароткі час і занятасьць тых самых людзей у іншых беларускіх арганізацыях і грамадзкіх установах, ахвярнасьць прыхажанаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага была высокай, бо выказалася ў суме 18.000 даляраў толькі за адзін год.

Як настаяцель, так і прыхажане здаюць сабе справу з таго, што пабудаваць царкву за адзін год нельга, асабліва, прыняўшы пад увагу, што парахвія пры заснаваньні ня мела ніякіх сродкаў.

Вялікую справу робяць вялікія людзі. Аб гэтым ведалі прыхажане Царквы Сьв. Кірылы Тураўскага, калі на гадавым сходзе ў кастрычніку 1969 г. выбралі Царкоўную Раду і Будаўнічы Камітэт, бо паклікалі ў гэтыя ворганы самых дзейных сяброў: Я. Казьлякоўскага, К. Мерляка, В. Шчэцьку, П. Мельяновіча, М. Брэзоўскага, В. Юрцэвіча, В. Захаркевіча, Л. Леўковіча й П. Саўчыца.

Выконваючы свой нацыянальны і хрысьціянскі абавязак, гэтыя людзі робяць усё магчымае, каб апраўдаць давер парахвіі. Да гэтага часу Бог благаславіў прыход Сьв. Кірылы Тураўскага адзінадумствам і згодаю, якая існуе паміж прыхажанамі, настаяцелем а. Сьвятаславам Каўшом, рэгентам Сымонам Жамойдаю і Царкоўнаю Управаю.

Адзначаючы супольную гадавіну, прыхажане Царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў доказ прызнаньня паднесьлі свайму настаяцелю а. Сьвятаславу залаты іерэйскі крыж, бо верацьу бачанае Канстанцінам Вялікім на небе напісанае:

ГЭТЫМ ПЕРАМОЖАМ.

# Царкоўны зьезд

27 і 28 сакавіка 1970 году ў Саўт Рывэры, у царкве Сьв. Ефрасіньні Полацкай адбыўся вялікі Царкоўны Зьезд, у якім прымалі ўдзел айцы настаяцелі, айцы дзіяканы, дэлегаты ад Царкоўных Камітэтаў, хораў, Сястрыцтваў і парахвіянаў. На Зьездзе прысутнічала 60 дэлегатаў з правам рашаючага голасу, што сьведчыць аб вялікай зацікаўленасьці беларускіх прыходаў Зьездам і пытаньнямі, якія на ім абмяркоўваліся.

27 сакавіка Зьезд распачаўся ўрачыстым малебнам, які адслужылі: а. архімандрыт Язэп з Торонта (Канада), пратапрэсьвіцер а. Мікалай Лапіцкі з Саўт Рывэру, а. пратаярэй Сьвятаслаў Коўш з Нью Ёрку, пратаярэй а. Алег Міранoвіч з Чыкага і а. дзіякан Алег Махнюк з Саўт Рывэру.

Пасьля малебна, Зьезд адкрыў а. пратапрэсьвіцер Мікалай, які прачытаў прывітальную тэлеграму і благаславенства Зьезду ад Архіяпіскапа Якава, Экзарха Канстантынопальскае Патрыярхіі. Пасьля гэтага быў выбраны старшыня Зьезду — а. пратапр. Мікалай Лапіцкі, а таксама — два сакратары: сп. К. Мярляк і сп. М. Сенька. У прэзыдыюм Зьезду былі пакліканы: а. архімандрыт Язэп, а. прат. С. Коўш, а. прат. А. Міранoвіч, а. дзіякан А. Махнюк.

Наступна, згодна парадку дня, Зьезд заслухаў справаздачныя інфармацыі аб царкоўным жыцьці прыходаў. З інфармацыяў вынікала, што нашы прыходы ўвайшлі ў нармальнае рэчышча і памысна разьвіваюцца.

У першы-ж дзень нарадаў была выбрана Рада Беларускай Праваслаўнай Царквы Злучаных Штатаў Амэрыкі і Канады, у якую ўвайшлі: айцы настаяцелі, а. дзіякан і па 4 сябры ад кожнага прыходу.

Другі дзень нарадаў распачаўся а 8-ай гадз. раніцы Сьвятой Літургіяй, споведзьдзю духавенства, удзельнікаў Зьезду, і вернікаў. Найважнейшым пытаньнем гэтага дня было: Справа аднаўленьня Беларускага Япіскапату ў Вольным Сьвеце. Пасьля ўсебаковага абмеркаваньня і дыскусыяў над гэтым пытаньнем, пастаноўлена зьвярнуцца да Сусьветнага Патрыярха Афінагора з просьбай благаславіць і высьвяціць для Беларускай Праваслаўнай Царквы ў Вольным Сьвеце двух япіскапаў. Праект звароту Зьезда да Патрыярха, які апрацаваў і прачытаў сп. інж. І. Касяк, Зьезд прыняў аднагалосна. Кандыдаты на япіскапаў будуць прадстаўлены пасьля атрыманьня благаславенства ад Патрыярха Афінагора.

Зьезд праходзіў у вельмі паважнай і дзелавой атмасфэры і пакінуў прыемнае ўражаньне.

С-а.

— о —

### ХРОНІКА ЦАРКОЎНАГА ЖЫЦЬЦЯ

САЎТ РЫВЭР.

28 снежаня 1969 г. у Саўт Рывэры, з благаславенства Архіяпіскапа Якава Экзарха Канстантынопальскай Патрыярхіі, Мітрапаліт Гэрманос узьвёў у сан архімандрыта а. ігумена Язэпа, а Алега Махнюка — у сан дыякана. З гэтай нагоды адбыўся супольны абед, падрыхтаваны сястрыцтвам.

* * *

18 студзеня 1970 г. у залі Шакаў адбылася „Ялінка" для беларускіх дзяцей. Вучнямі парахвіяльнай школы была пастаўлена п'еска „Андрэй за ўсіх разумней". П'еску



і танцы падрыхтавала сп-ня В. Камінкова, а дзіцячы хор — сп. В. Цярпіцкі. Традыцыйны „Дзед Мароз" раздаваў падарункі, а акрамя гэтага сястрыцтва падрыхтавала пачастунак для дзяцей.

* * *

25 студзеня 1970 г. адбыўся Агульны Гадавы Сход парахвіянаў парахвіі імя Сьв. Ефрасіньні Полацкай. З справаздачы Парахвіяльнага Камітэту было відаць, што заплянаваны бюджэт быў выкананы з надвышкай. На пакрыцьцё коштаў будовы царквы і залі Парахвіяльны Камітэт пераказаў Будаўнічаму Камітэту 24.500 даляраў. У справаздачы Будаўнічага Камітэту было паказана, што, як царква, так і заля звонку ўжо амаль гатовыя. Засталося толькі выканчыць работу ў сярэдзіне. Паводле падлікаў Будаўнічага К-ту, работа гэта будзе каштаваць каля 30.000 даляраў. На пабудову царквы і залі выдаткавана ўжо каля 75.000 дал.



Вонкавы выгляд будучай новай Беларускай Праваслаўнай Царквы імя сьв. Ефрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры.

Будаўнічы К-т зьвярнуўся з заклікам да парахвіянаў урэгуляваць свае забавязаньні і даслаць свае ахвяры, каб яшчэ сёлета закончыць распачатую работу.

У беларускім рэлігійна-грамадзкім цэнтры будуць разьмешчаны: школа, бібліятэка, музей, архіў і іншыя ўстановы. У сувязі з гэтым, абавязкам кожнага сьведамага беларуса — дапамагчы матэрыяльна ў заканчэньні пабудовы.

Рэдакцыя і Выдавецтва часапісу „Беларуская Думка", сябры якіх таксама прымаюць актыўны ўдзел у пабудове беларускай царквы і рэлігійна-грамадзкага цэнтру, канстатуюць вялікі размах распачатай пабудовы і, з свайго боку, заклікаюць усіх беларусоў дапамагчы ў гэтай сьвятой справе.

НЬЮ ЁРК.

2 сакавіка 1969 году распачаліся рэгулярныя Божыя Службы ў царкве прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл. Першая і наступныя службы адбываліся ў Украінскай праваслаўнай царкве Сьв. Андрэя ў Джамэйка, Квінс.

Настаяцелем прыходу стаў а. Сьвятаслаў Коўш, а дырыгентам — сп. Сымон Жамойда. Пасьля ўрачыстай Багаслужбы з удзелам беларускага кананічнага духавенства, адбыўся банкет, на якім прамаўлялі прадстаўнікі беларускіх парахвіяў, арганізацыяў ды прадстаўнікі іншанацыянальных арганізацыяў.

* * *

Чэрвень 1969 году. Царкоўная Управа выдала адозву ў справе пабудовы новай царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл, Нью Ёрк. А супольна з Управаю Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня яна выдала лістоўку з высьвятленьнямі, за што „Архіяпіскап" Тамашчык падаў у суд прыхаджанаў парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага і як ён з прыхільнікамі зрабавалі грамадзкую маёмасьць.

* * *

26 кастрычніка 1969 г. у залі пры 139-ай вуліцы, Джамэйка, адбыўся агульны сход прыхаджанаў царквы Сьв. Кірылы Тураўскага. На сходзе была зроблена справаздача з дзейнасьці новага, рэарганізаванага прыходу ды была выбрана новая Царкоўная Управа.

* * *

18 студзеня 1970 г. Сястрыцтва Сьв. Ефрасіньні Полацкай пры царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ладзіла супольнае сьвята з нагоды праваслаўнага Новага Году.

* * *

22 лютага 1970 г. прыхаджане царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл, Нью Ёрк, адзначылі гадавіну сьвятарства а. Сьвятаслава Каўша, настаяцеля прыходу, а таксама год дзейнасьці прыходу пасьля яго рэарганізацыі.

З гэтае нагоды, на банкеце, заступнік старшыні Цар-

коўнае Ўправы сп. К. Мярляк уручыў ад прыходу а. Сьвятаславу залаты іерэйскі крыж. Ад Сястрыцтва, Сп-ня А. Мярляк уручыла матушцы Веры залаты нашыйнік, а Стараста, сп. В. Захаркевіч, уручыў дырыгенту сп. Сымону Жамойда залаты гадзіньнік.

Бяседа адбывалася ў вельмі сяброўскім настрою і з сьпевам беларускіх народных песьняў.

ЧЫКАГА.

Беларуская царква імя Сьв. Юрага ў Чыкага, настаяцелем якое зьяўляецца а. Алег Міранові, а старшынёй Царкоўнае Управы сп. Глеб Калтуноўскі, залячыла свае папярэднія раны і на сёньняшні дзень зьяўляецца здарова і з вельмі добрымі перспектывамі на будучыню.

ТАРОНТА, Канада.

Царква імя Сьв. Ефрасіньні разьвіталася із сваім настаяцелем а. Якавам Кузьміцкім, які па ўласнай просьбе, у сувязі з сваім векам, адышоў. Настаяцелем цяпер зьяўляецца архімандрыт Язэп Строк, які за кароткі час заваяваў сабе сымпатыю і любоў сваіх прыхаджанаў. Пры царкве існуе цяпер суботняя школка, арганізавалася Сястрыцтва. Царкоўны К-т працуе вельмі добра і парахвія разьвіваецца.

# з жалобнай карты

### СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ ЯЎХІМ КІПЕЛЬ

У нядзелю, 27 ліпеня 1969 году ў Радэрфордзе, Нью Джэрзі, пасьля доўгай і цяжкай хваробы разьвітаўся з гэтым сьветам шырака ведамы вялікі патрыёт, творчы грамадзкі і палітычны дзеяч, Прэзыдэнт Другога Ўсебеларускага Кангрэса, дацэнт Яўхім Кіпель.



Яўхім Кіпель нарадзіўся 12 кастрычніка 1898 года ў вёсцы Байлюкі, каля Глуска, на Бабруйшчыне. Яму прышлося жыць у пераломных мамэнтах вялікіх палітычных, грамадзкіх і сацыяльных пераменаў, якія навадніялі краіны Эўропы. У вір гэтых падзеяў трапляе й сьв. пам. Яўхім Кіпель. Ужо ў 1915 годзе яго мабілізуюць і накіроўваюць на вайсковае вышкаленьне ў школу Прапаршчыкаў у Кіеве, а неўзабаве перакідаюць на паўдзённы фронт у Бэсарабію. Затым ідуць: Адэса, Афіцэрская Школа ў Маскве, Паўночна-Заходні фронт, дзе яго й засьцігае рэвалюцыйны пераварот. У 1918 годзе Беларуская Заходняя Дывізія, у складзе якой быў сьв. пам. Яўхім Кіпель, накіроўвае яго ў вайсковую школу штабной службы ў Смаленск. Тут разам з іншымі курсантамі-беларусамі гэтай школы, ён прысутнічае ў канцы сьнежня 1918 году на зьезьдзе, на якім была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка.

У 1920 годзе сьв. пам. Яўхім Кіпель пераязджае ў Менск і служыць у гэтак званым тэрытарыяльным палку ды адначасна наведвае першыя курсы беларусазнаўства. Адразу пасьля дэмабілізацыі паступае ў унівэрсытэт і, будучы студэнтам, прымае актыўны ўдзел у беларускім нацыянальна-грамадзкім руху. Ён супрацоўнічае ў часапісу для дзяцей „Зорка", які рэдагаваў ведамы пісьменьнік Зьмітрок Бядуля (Самуіл Плаўнік); арганізуе студэнтаў у т. зв. Клюб Беларускае Моладзі, арганізуе і закладае „Беларускую Хатку" (пазьней зьліквідавана бальшавікамі), арганізуе Аб'еднаньне Беларускіх Студэнтаў Менскага Унівэрсытэту. Шмат увагі зварочвае ён на прэсу, узгадаваньне і асьвету. Супрацоўнічае з часапісамі „Наш Край", „Полымя": піша на ідэалягічныя, палітычныя, краязнаўчыя і філёзэфскія тэмы.

Пасьля заканчэньня студыяў, здабывае тытул дацэнта Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску, працуе ў асьпірантуры Беларускай Акадэміі Навук ды выкладае прыродазнаўства ў розных школах Менску.



Ёсьць людзі, уплыў якіх захоўваецца ў юнацкіх сэрцах. Гэта — людзі, Богам выбраныя для ўзгадаваньня моладзі. Да іх належаў і сьв. пам. Яўхім Кіпель. Сваім вучням-гадунцам ён умеў прышчапіць тую любоў да народа, роднай мовы, культуры і ўсяго беларускага, якой гарэў і сам.

Як навуковец, сьв. пам. Яўхім Кіпель зьяўляецца сябрам тэрміналягічнай камісіі пры Беларускай Акадэміі Навук, сябрам Беларускага Краязнаўчага Аб'еднаньня — Пазнай Свой Край, а таксама апрацоўвае на беларускай мове падручнік заалёгіі „Жывёлы", які адразу-ж і пачынае ўжывацца ў школах. „Расьліны" — падручнік батанікі, бальшавікі так і ня выпусьцілі са складу.

Сьв. пам. Яўхім Кіпель быў адным з тых, хто сваёй творчай працай прычыняўся ў аграмаднай частцы, каб беларускае імя ня сьпіхалася ў цень. Вялікая любоў да Беларусі й яе культуры была прычынаю, што ў 1930 годзе (у канцы чэрвеня), яго арыштоўваюць і высылаюць на 5 гадоў у ссылку. Гэта быў пагром сьведамае беларускае інтэлігенцыі. За адну ноч у Менску тады арыштавалі больш 300 асобаў. Абвінавачаньне кароткае: Нац-Дэмы — нацыянальная дзейнасьць, каб адарваць Беларусь ад СССР.

Уявіце сабе жыцьцё зьняволенага, сасланага, „праступствам" якога ёсьць ягоная любоў да Беларусі і які далёка ад Бацькаўшчыны, родных, крэўных, знаёмых і сям'і пакутуе ў Налінску (цяпер Кіраў) Вяцкай вобласьці. Праўда, у 1932 годзе, у Налінск-жа „прапаноўваецца" пераехаць і ягонай жонцы.

У Уржуме, каля 80 кілямэтраў ад Налінска (такая адлегласьць — гэта кароткая дыстанцыя ў Сібіры), былі сасланыя паэт Ул. Жылка ды іншыя нац-дэмы, якія там і зложылі свае косьці. Варочаючыся із ссылкі, сьв. пам. Яўхім Кіпель захаваў між склейкамі ў чамадане, вьратаваў і прывёз на Бацькаўшчыну вядомы патрыятычны твор Ул. Жылкі — „Тэстамэнт".

Як былому ссыльнаму, Яўхіму Кіпелю забараняецца жыць на Беларусі. Ён выбірае для пасяленьня горад Арол, куды і пераязджае з Налінску сям'я: жонка і сын. Але нядоўга прышлося цешыцца свабодай — усяго чатыры месяцы. Новы арышт, новае сьледзтва, але той самы аргумэнт — нац-дэм. Прапануюць паварот на Беларусь, але цаной даносаў, сачэньня за беларускім рухам, і гэтым хочуць зламаць волю і сілу патрыятызму. Не атрымаўшы згоды, высылаюць на паўторныя пяць гадоў у Байкала-Амурскія канцлягеры, дзе, зносячы зьдзек, голад, холад і нядолю, давялося працаваць на пабудове чыгункі. Каб зламаць патрыятызм, беларускасьць, Яўхіма ўлучаюць у 48-ую штрафную калёну суровага рэжыму.

Дзесяць гадоў ссылкі, штрафныя калёны дабіваюць найвялікшага волата. Трупамі ўслана чыгунка. Яўхімжа — чалавек нястомнай энэргіі, моцнай волі і веры ў жыцьцё, — вытрываў і акурат на Новы Год 1941 г. вызваляецца з ссылкі і праз тры тыдні варочаецца да сям'і. Новыя перашкоды, абмежаваньні. Патрыёту забараняецца жыць на Беларусі, таксама ў сталічных ды акруговых гарадох, дазваляецца жыць толькі ў сельскай мясцовасьці. Сям'я жыла ў Арле, дык ля Арла затрымаўся і Яўхім, шукаючы адпаведнай працы. Тут і засьцігла яго Другая Сусьветная Вайна. У 1942 годзе ён перабіраецца ў Менск і працуе ў Навуковым Аддзеле Беларускае Цэнтральнае Рады. Спачатку супрацоўнічае ў газэтах „Беларуская Газэта", „Голас Вёскі". Пазьней становіцца рэдактарам газэты „Голас Вёскі". Моцны характар, ахвярнасьць, станоўчасьць накіроўвае ўсе сілы на прэсу, як найбольшую бяскроўную зброю палітычна-грамадзкіх справаў.

Калі ў 1944 г. склікаецца Другі Ўсебеларускі Кангрэс, ягоныя дэлегаты просяць сьв. пам. Яўхіма Кіпеля абняць становішча Прэзыдэнта Кангрэса. Ён дае сваю згоду і даводзіць Кангрэс да канца.

Ваенныя падзеі змушаюць сьв. пам. Яўхіма Кіпеля пакінуць Менск, Беларусь і эміграваць у Нямеччыну, працуючы ўсьцяж у Навуковым Аддзеле Беларускае Цэнтральнае Рады. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны, працуе настаўнікам у Беларускай гімназіі ў Міхельсдорфе, а потым у Бакнангу. Адначасна супрацоўнічае з газэтай „Беларускае Слова". Бескампрамісовасьць — характэрная рыса Яўхіма Кіпеля. Ён не абмінае „адлупцаваць" нікога з грамадзтва, хто заслугоўваў за свае недахопы і заганы. Калі ўспаміналася прозьвішча „Кіпель", кожны ведаў, што гэта — вялікі патрыёт, які любіў свой край ня словамі, а чынам.

У 1949 г. сьв. пам. Яўхім Кіпель з сям'ёй эмігруе ў ЗША і ў далейшым цягу ня спыняе палітычна-грамадзкае працы. Акрамя штодзённае заробкавай працы, ён аддана працуе і верыць у вызваленьне Беларусі; супрацоўнічае з газэтай „Беларуская Трыбуна", пэўны час рэдагуе яе; у 1953 г. выдае друкам кніжку „Асновы маралі"; у 1954 г. прымае ўдзел у выданьні кніжкі-актаў „Другі Ўсебеларускі Кангрэс".

Пісаць Яўхім не пакідае да апошняга часу. Меў на ўвеце апрацаваць і выдаць кнігу ўспамінаў „Нацдэмы". Ясная сьвядомасьць розуму не пакідала яго да апошняй мінуты. Яшчэ ў апошні дзень ён казаў: „Папраўлюся, выздаравею, ды ўрачыста адсьвяткуем на Белэры-Менск 25-цігодзьдзе Другога Ўсебеларускага Кангрэсу."

Цяжка ўявіць, цяжка згадзіцца з тым, што яго няма сярод нас. Здавалася, што Яўхім Кіпель заўсёды здаровы, што, выцерпеўшы ссылкі, не пакінуў сьлядоў зьнямогі.

Але сьмерць прыйшла раптоўна. Перастала біцца вялікае сэрца. Адышоў у вечнасьць актыўны і творчы да апошніх хвілінаў свайго жыцьця змагар, які высака трымаў беларускія ідэалы.

Сьв. пам. Яўхім Кіпель добра ведаў цану мілітарнае сілы. Хоць сам сябе ён не пасьвяціў вайсковасьці, але часта зазначаў, што дыпляматы, гісторыкі падрыхтоўваюць глебу, але вызваленьне краіны (народу) прыносіць толькі мілітарная сіла, з якой усе лічацца. Ён гарэў лятуценьнем стварэньня моцнай беларускай арміі, браў удзел у жыцьці ветэранаў, быў Хросным Бацькам сьцягу ветэранаў.

З вялікай пашанай беларускае грамадзтва ў апошні раз разьвіталася з сьв. пам. Яўхімам Кіпелем у часе пахованаў, якія адбыліся 31 ліпеня 1969 г. на Беларускім Праваслаўным Магільніку ў Саўт Рывэры, пры шматлікім удзеле прадстаўнікоў БЦР, Беларускага Кангрэсавага Камітэту, Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Ветэранаў ды розных іншых беларускіх арганізацыяў.

Надзвычайную пашану аддалі ветэраны свайму любімаму Хроснаму Бацьку, прыкрываючы жалобнай крэпай свае сьцягі, а дамавіну — бел-чырвона-белым беларускім сьцягам, трымаючы зброю на каравул ды аддаючы апошні аружны салют у паветра пры апусканьні дамавіны.

Хай лёгкай будзе яму амэрыканская зямля!

Вечная памяць Табе, непахісны змагар!

**Сымон Жамойда.**

## СЬВ. ПАМ. Д-Р ІВАН ЕРМАЧЭНКА



Дня 25 лютага 1970 году ад сэрцовага ўдару памёр д-р Іван Абрамавіч Ермачэнка, пражыўшы 75 гадоў. Ён памёр у собскім зімовым доме ў Дэльрай на Флёрыдзе.

Д-р Ермачэнка нарадзіўся 1 травеня 1894 г. у вёсцы Капачоўка Барысаўскага павету Менскай губэрні. Ён паходзіў з беларускай сялянскай сям'і. Ягоны бацька некаторы час працаваў на чыгунцы каля Масквы.

Пачатковую школу ён наведваў у сваёй вёсцы, а гімназію скончыў у Маскве. Вышэйшыя студы распачаў на электратэхнічным факультэце ў Маскве, але ня скончыў іх. У 1914 годзе распачалася Першая Сусьветная вайна і Ермачэнка паступіў дабраахвотнікам у армію. Ён скончыў школу прапаршчыкаў і быў пасланы на фронт. Там ён даслужыўся да паручыка і трапіў у нямецкі палон. Гэта была ўжо пара грамадзянскай вайны ў былой Расейскай імпэрыі. Ермачэнка ўцёк з палону і дастаўся ў Белую Расейскую армію, дзе даслужыўся капітана. У апошнія часы вайны, у чыне палкоўніка, ён быў ад'ютантам генэрала Врангеля, галоўнакамандуючага паўднёвым фронтам. Разам з арміяй палкоўнік Ермачэнка эвакуяваўся ў Канстантынопаль, у Турэччыну, у 1920 годзе.

У Канстантынопалі Ермачэнка ўліваецца ў беларускую нацыянальную працу. Пры яго ўдзеле тут быў заснаваны ў 1921 годзе Беларускі Камітэт, які даручыў Ермачэнку навязаць лучнасьць з урадам Беларускай Народнай Рэспублікі. Неадкладна ён паехаў да ўраду БНР, які ў той час знаходзіўся ў Коўна ў Літве. У Коўне ён атрымаў, за подпісам В. Ластоўскага, Старшыні Ураду БНР, намінацыю на дыплёматычнага прадстаўніка беларускага ўраду ў Канстантынопалі і генэральнага консула Беларусі на Балканах. З дыплёматычным пашпартам БНР І. А. Ермачэнка прыехаў у Кантанстынопаль.

Пры супрацоўніцтве Беларускага Камітэту ў Канстантынопалі, Ермачэнка злажыў свае акрэдытуючыя паперы старшыні Турэцкага ўраду Тэффік Пашы, а па яго парадзе і камісарам акупацыйных уладаў у Турэччыне: амэрыканскаму, ангельскаму, француcкаму, італьянскаму і грэцкаму. У хуткім часе былі атрыманыя прызнаньні дэ-факто ад урадаў: францускага, італьянскага і грэцкага. Камісары амэрыканскі і ангельскі паінфармавалі, што іх урады паўстрымліваюцца з афіцыйным прызнань-



нем БНР да выясьненьня польскіх прэтэнзіяў на беларускія тэрыторыі. Аднак, яны запэўнілі, што ня будуць рабіць ніякіх перашкодаў у дыплёматычнай дзейнасьці беларускага консульства. У далейшым Ермачэнка наведаў усе іншыя дыпляматычныя і консульскія прадстаўніцтвы ў Турэччыне, якія запэўнілі, што беларускія пашпарты БНР будуць рэспэктаваныя на роўні з пашпартамі іншых дзяржаў.

Беларускі кансулят палагоджваў выезд беларускіх вайскоўцаў з Турэччыны ў Літву — у беларускі батальён, або на жыхарства — у Амэрыку і іншыя дзяржавы вольнага сьвету.

Наступна Ермачэнка заснаваў консульскія аддзелы БНР у Баўгарыі й Югаславіі, якія займаліся палагоджваньнем справаў эміграцыі або рэпатрыяцыі беларусаў, што апынуліся ў гэтых дзяржавах.

У 1921 годзе урад БНР склікаў шырэйшую беларускую нацыянальна-палітычную нараду ў Празе Чэскай. Ермачэнка, разам з пераважнай бальшынёй удзельнікаў, спрычыніўся да правядзеньня пастановы з дамаганьнем незалежнасьці для Беларусі, супроць палянафілаў, якія жадалі падтрымкі свайго супрацоўніцтва з польскім урадам, які, нібы, быў у стане вырашыць беларускае пытаньне.

У палове 1922 года д-р Іван Цьвікевіч выклікаў Ермачэнку ў Коўна і прызначыў яго заступнікам міністра замежных справаў БНР, для падарожжаў у іншыя дзяржавы.

У канцы 1922 г. літоўскі ўрад адабраў ад ураду БНР усе прывілеі і змусіў яго да выезду ў Прагу Чэскую. Літоўскі ўрад запрапанаваў Ермачэнку застацца ў Літве і абняць становішча камандзіра палка ў літоўскай арміі. Аднак, Ермачэнка адмовіўся і пераехаў у Прагу разам з урадам БНР. Тут ён пачаў навуку на факультэце медыцыны ў Карлавым унівэрсытэце, атрымаўшы беларускую стыпэндыю. Ён быў актыўным сябрам Беларускага Студэнцкага Саюзу, кіраўніком беларускай сэкцыі арганізацыі моладзі „Сокал", існаваўшай пры агульным чэскім „Сокале". Адначасна ён прымаў удзел у рэпрэзэнтацыі беларусоў на ўрачыстасьцях іншых нацыянальнасьцяў, і цесна супрацоўнічаў з урадам БНР.

У 1925 годзе ў Бэрліне адбылася канфэрэнцыя прадстаўнікоў ад урадаў СССР, БССР і БНР. Бальшавікі пераканалі бальшыню ўраду БНР да пераезду ў БССР. Аднак, Ермачэнка, разам з Крэчэўскім, Захаркам і Грыбам, не паверыў савецкім абяцанкам і застаўся за межамі Беларусі. Слушнасьць гэтага становішча, праз некаторы час, поўнасьцю пацьвердзілася: усе пераехаўшыя ў БССР дзеячы БНР былі арыштаваныя савецкімі ўладамі і зьнішчаныя.

У 1929 г. Ермачэнка скончыў мэдычныя студы і адчыніў свой лекарскі габінэт у Празе Чэскай. Ён і надалей утрымліваў блізкія дачыненьні з сябрамі ўраду БНР і годна рэпрэзэнтаваў беларусаў на міжнацыянальных зьездах.

Падчас Другой Сусьветнай вайны, пасьля акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі, увосень 1941 г. д-р Ермачэнка прыбыў у Менск. Тут ён заснаваў масавую беларускую арганізацыю — Беларускую Народную Самапомач, якая ў хуткім часе ахапіла сваёй сеткай усе акруговыя, паветавыя і валасныя цэнтры Беларусі, ахопленыя цывільным кіраўніцтвам. Самапомач займалася нясеньнем матар'яльнай дапамогі патрабуючаму жыхарству, дапамогай у галіне аховы здароўя і арганізацыяй культурнага жыцьця (народных дамоў, мастацкай самадзейнасьці, пашырэньня прэсы і. г. д.).

Дня 22 чэрвеня 1942 году Генэральны Камісар Беларусі Кубэ паклікаў установу Беларускіх Мужоў даверу, на старшыню якой прызначыў д-ра Ермачэнка. Цяпер д-р Ермачэнка выступаў афіцыйна перад нямецкімі ўладамі па ўсіх справах, што датычылі беларускага народу. У хуткім часе ён атрымаў дазвол на арганізацыю Беларускай Самааховы — беларускіх збройных аддзелаў для абароны перад савецкімі партызанамі. На пачатку ён арганізаваў у Менску афіцэрскую школу для перашкаленьня беларускіх афіцэраў. Гэта школа ў хуткім часе перашколіла два выпускі афіцэраў. Далейшае разьвіцьцё Беларускай Самааховы тармазілася нямецкімі ўладамі.

Д-р Ермачэнка быў вельмі рэлігійным чалавекам і быў у пастаянных зносінах з галавой Беларускай Праваслаўнай Царквы — мітрапалітам Панцялейманам, а пазьней — арх. Філафеем. Арганізацыя Беларускай Народнай Самапомачы прымала чынны ўдзел у дапамозе падрыхтоўкі да беларускага Праваслаўнага Аўтакефальнага Сабору, які адбыўся ў Менску ад 30 жніўня да 2 верасьня 1942 года.

Самапомач пад кіраўніцтвам д-ра Ермачэнка рабіла захады аб адчыненьні сярэдніх школаў, што з часам і было асягнута.

Шырокая нацыянальная дзейнасьць Самапомачы ўзьняла нацыянальную сьведамасьць і арганізаванасьць беларускага народу. Гэты ўздым выклікаў супрацію нямецкай акупацыйнай палітыцы, жорстка трактаваўшай беларусаў. Між нямецкімі акупацыйнымі органамі палітычнай паліцыі (СД) і цывільнай адміністрацыяй адбывалася сукрытая барацьба адносна палітыкі, стасаванай на Беларусі. Ахвярай гэтай барацьбы стаў д-р Ермачэнка. Генэральны Камісар падтрымліваў д-ра Ермачэнка, а СД дамагалася яго выдаленьня з займаных становішчаў. Для асягненьня сваёй мэты, СД скарыстала, а можа й

інсьпіравала, данос на д-ра Ермачэнка, падпісаны Міхаілам Абрамчыкам, які працаваў у Бэрліне. У гэтым даносе падавалася, што д-р Ермачэнка імкнецца далучыць да Беларусі акругі Беласточчыны і Горадзеншчыны, якія былі далучаныя немцамі да Усходняй Прусіі.

Аб небясьпецы д-ра Ермачэнка паведаміў па простай тэлефоннай лініі з Бэрліну ў Менск яго прыяцель, д-р А. Вагнэр, высокі ўраднік у Міністэрства Усходу. Каб унікнуць подслуху, ён гаварыў парасейску, ня гледзячы на дамаганьні тэлефоннай абслугі гаварыць панямецку і перакрычаў тэлефаністых, якія яго перабівалі. Д-р Вагнэр сказаў, каб д-р Ермачэнка адкінуў усе закіды і не прызнаваўся да ніякіх інкрымінаваных праступстваў. Адумысловыя ўраднікі СД, высланыя з Бэрліну ў Менск, начамі праводзілі сьледства, дамагаючыся прызнаньня. Урэшце, д-р Ермачэнка быў выдалены з Менска ў Прагу Чэскую, з забаронай займацца грамадзкімі справамі.

На пачатку 1943 г. у Менску выбухам міны, падложанай у ложак беларускай прыбіральшчыцай Н. Мазанік, якая ўцякла да савецкіх партызанаў, быў забіты Генэральны Камісар Беларусі Вільгельм Кубэ. У сувязі з гэтым, д-р Ермачэнка быў арыштаваны і пасаджаны ў турму ў Празе, як падазроны за садзейнічаньне ў забойстве, нібы рэкамэндуючы беларускі пэрсанал для замардаванага Генэральнага Камісара. З турмы д-р Ермачэнка быў прызначаны на транспарт у канцлягер і толькі выпадкова ўратаваўся ад газавай камэры, дзякуючы рызыкоўнай дапамозе асабістага прыяцеля д-ра Мэндэ і сваёй жонкі.

Пад канец вайны, у 1945 годзе перад наступаючымі савецкімі арміямі, д-р Ермачэнка разам з сям'ёй выехаў з Чэхіі ў Заходнюю Нямеччыну. Тут ён працаваў лекарам у УНРРА і ІРО. У 1948 годзе ён выэміграваў у ЗША, дзе працаваў лекарам у розных шпіталях.

Адразу пасьля прыезду ў Амэрыку, д-р Ермачэнка распачаў беларускую арганізацыйную працу. Пры ўдзеле некалькі новых беларускіх эмігрантаў быў заснаваны Задзіночаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамаговы Камітэт у Саўт Рывэры, з абсягам дзейнасьці на ўсю Амэрыку. Было пачата выдаваньне на рататары беларускага часапісу „Беларус у Амэрыцы“. Была арганізавана дапамога з Амэрыкі для беларускіх арганізацыяў у Заходняй Нямеччыне. Д-р Ермачэнка прымаў самы актыўны ўдзел у міжнацыянальных зьездах, належна рэпрэзэнтуючы беларусаў.

З прычыны свайго значнага веку д-р Ермачэнка быў змушаны пазьней абмежаваць свой удзел у дзейнасьці беларускіх арганізацыяў. Аднак, ён часта выступаў з прамовамі на зьездах і акадэміях, маючых агульна-нацыянальнае значэньне, як угодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР, зьезды беларускіх вайскоўцаў, юбілей Другога Усебеларускага Кангрэсу і інш.

Артыкулы, прысьвечаныя беларускім нацыянальным пытаньням, пісаныя д-рам Ермачэнка, былі друкаваныя ў „Менскай Газэце“, „Беларускай Газэце“ і акруговых газэтах у гадох 1941-1943, у часапісе „Беларус у Амэрыцы“ за 1949 г., у публікацыі Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, прысьвечанай 40-годзьдзю абвешчаньня незалежнасьці БНР за 1958 год і інш. Да канца жыцьця д-р Ермачэнка быў сябрам Рэдакцыйнай Камісіі Беларускага Кангрэсаага Камітэту Амэрыкі, якая рыхтуе да друку гісторыю Беларусі на ангельскай мове.

Д-р Ермачэнка быў выдатным беларускім нацыянальным і дзяржаўным дзеячам падчас вялікіх беларускіх нацыянальна-вызвольных змаганьняў у пару Першай і Другой Сусьветных войнаў. Ён займаў высокія і адказныя становішчы, улажыў шмат працы для беларускай нацыянальнай справы і пакінуў свой сьлед у гісторыі Беларусі.

Ён асіраціў сваю жонку, былую Веру Шафэр, дзяцей: Таню з Міхаілам Брытт і Зіну са Стэнлі Ляскоўскіх ды чатырох унукаў.

Пахаваньне адбылося 28 лютага, пасьля службы ў расейскай праваслаўнай царкве пры доме старых, на могілках у Росьлін на Лонг Айлэндзе. У хаўтурах прымала ўдзел група беларусоў з Нью Ёрку, Ірвінгтону, Саўт Рывэру і Нью Брансвіку. Труна была пакрыта беларускім нацыянальным сьцягам. Выносілі труну былыя унівэрсітэцкія сябры, супрацоўнікі з часоў 2-ой Сусьветнай вайны — грамадзяне: П. Орса, І. Касяк, Н. Мядзейка, А. Плескачэўскі і А. Евец у суправодзе пратапр. а. М. Лапіцкага і матушкі. Разьвітальнае слова над магілай сказаў І. Касяк.

**Сьведка.**

### СЬВ. ПАМ. В. ШУЛЬТЭ

Пасьля цяжкой і доўгай хваробы памёр сьв. пам. В. Шультэ, пражыўшы 71 год. Нябожчык паходзіў з Слонімa. Перад вайною быў служачым. Зьмена ўлады ў Зах. Беларусі не зрабіла вялікіх зьменаў у жыцьці нябожчыка — ён быў сьціплым работнікам. Аднак, пад канец мінулае вайны, падзеі выгналі сьв. пам. В. Шультэ з родных мясьцінаў і ён з сям'ёй апынуўся ў Нямеччыне, у Брэмене, дзе і жыў да сьмерці.

Пасьля яго засталіся жонка, 6 дзяцей і ўнукі.

Пахаваны 26 кастрычніка 1969 г. ў Брэмене.

Нябожчык быў сябрам ЗПБ і супрацоўнікам часапісу „Беларускі Патрыёт“, у якім зьмяшчаў свае артыкулы пад псэўдонімам Міткевіч, а таксама пад ініцыяламі: В. Ш.; В. М. Ж.

Няхай лёгкай будзе яму чужая зямля, якая яго прытуліла і дала вечны супакой.

Адначасна выказваем сваё глыбокае спачуваньне ягонай сям'і з прычыны такой вялікай страты.

**Сябры**



# ХРОНІКА

**25-ыя ўгодкі Другога Ўсебеларускага Кангрэсу.**

31 жніўня 1969 г. на беларускім адпачынковым рэсорце Бэлэр-Менск (Глен Спэй, Нью Ёрк) адбыўся зьезд беларусаў ЗША і Канады, прысьвечаны 25-ым угодкам Другога Ўсебеларускага Кангрэсу. Урачыстую Божую Службу і малебен за беларускі народ адправілі: пратапр. а. М. Лапіцкі, ігумен Язэп і а. С. Коўш, пасьля чаго ў залі рэсорту адбылася Акадэмія. Зьмястоўны і на высокім узроўню рэфэрат прачытаў др. Вітаўт Кіпель.

У гэтай-жа залі была наладжана адмысловая выстаўка друкаў і фотаздымкаў, прысьвечаных Другому Ўсебеларускаму Кангрэсу. Пасьля Акадэміі адбыўся банкет, а ўвечары — вялікі канцэрт беларускага жаночага хору „Каліна“ пад мастацкім кіраўніцтвам кампазытара К. Барысаўца.

**Шосты Кангрэс Беларусаў Амэрыкі**

29 лістапада 1969 г. у Саўт Рывэры адбыўся Шосты Кангрэс Беларусоў Амэрыкі. Праца Кангрэсу праходзіла злагадна. Усе дэлегаты стараліся быць у сваіх выказваньнях рэчовымі, дзеля гэтага, намечаны парадак дня быў выканаваны поўнасьцю. У Кангрэс Беларусоў Амэрыкі было прынята Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью Ёрку. Кангрэс выбраў управу Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі ў наступным складзе: І. Касяк — прэзыдэнт, К. Мерляк, А. Плескачэўскі і М. Бахар — віцэпрэзыдэнты, Б. Шчорс і М. Сенька — сакратары, Н. Мядзейка — скарбнік, М. Бразоўскі, В. Цярпіцкі, В. Кіпель, В. Пунтус, Кс. Вайцяхоўскі і С. Жамойда — сябры. У Рэвізыйную Камісію выбраны: Э. Ясюк — старшыня, П. Орса і В. Шчэцька — сябры. У Раду Кангрэсу выбраны: А. Даніловіч — старшыня, А. Занковіч — сакратар, а. М. Лапіцкі, а. А. Мірановіч, а. С. Коўш, Г. Арцюшэнка, сп-ня Т. Аўдзей, К. Барысавец, В. Юрцэвіч, М. Кавыль, Я. Казьлякоўскі, М. Манцывода, сп-ня Л. Махнюк, П. Мельяновіч, А. Мінчук, В. Мяжэвіч, І. Наумчык, М. Палюховіч, Ул. Пелеса, П. Саўчыц, І. Шчорс і Ф. Высоцкі — сябры. Прадстаўніцтвы Б.К.К.А.: М. Грэбень (Фэніксвіл, Пэнсільвэнія), Э. Ясюк (Пасэйк, Нью Джэрзі), М. Латушкін (Чыкага, Ільліной), Ч. Найдзюк (Лёс Анджэлёс, Каліфорнія), І. Шымчык (Кліўлэнд, Огайо) і А. Шастак (Вільмінгтон, Дэлавэр).

* * *

31 сьнежня 1969 г. ў залі Шакаў адбылася многалюдная Сустрэча Новага Году. Іграла беларуская аркестра Ул. Бычкоўскага. Прыбытак ад Сустрэчы пайшоў на пабудову Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру у Саўт Рывэры.

* * *

1 лютага 1970 г. ў залі Шакаў (Саўт Рывэр) адбыўся Агульны Гадавы Сход шэраўцаў (дольнікаў) карпарацыі Бэлэр-Менск. Не зважаючы на некаторыя цяжкасьці, якія цяпер перажывае карпарацыя, ёсьць добрыя прагнозы на будучыню. На сходзе выбрана новая Рада Дырэктароў у наступным складзе: др. Ул. Красоўскі — прэзыдэнт, Ю. Наумчык — віцэпрэзыдэнт, С. Рагалевіч — скарбнік, С. Касьцюк — сакратар, А. Протас, П. Захаркевіч, А. Шастак, Ул. Крывіцкі, М. Казьлякоўскі, П. Пяцько, А. Ерамёнак і І. Ліс — сябры. У Рэвізійную Камісію выбраны: В. Кіпель — старшыня, В. Станкевіч і Ул. Пелеса — сябры.

* * *

28 лютага 1970 г. Злучаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамаговы Камітэт ладзіў у залі Шакаў вечар „Бліны-Танцы“, які прайшоў з вялікім посьпехам. Іграла аркестра Ул. Бычкоўскага.

* * *

7 сакавіка 1970 г. у Нью Ёрку баўгары ладзілі Баўгарскі Вызвольны Дзень на якім прысутнічалі сэнатары, кангрэсмэны і іншыя высокія прадстаўнікі адміністрацыі, а таксама прадстаўнікі паняволеных нацыяў, сярод якіх былі і прадстаўнікі беларусаў. Падчас сьвяткаваньня сп. І. Касяк — прэзыдэнт БККА і сп. А. Плескачэўскі — віцэпрэзыдэнт БККА былі ўзнагароджаны дыплёмамі і мэдалямі Баўгарскага Вызвольнага Фронту, як вызначныя

антыкамуністычныя дзеячы.

* * *

4 красавіка 1970 г. у Вашынгтоне адбылася вялікая рэлігійна-патрыятычная і антыкамуністычная маніфэстацыя. Удзельнічала ў ёй звыш 50.000 чал. У маніфэстацыі ўдзельнічалі Амэрыканскія Сябры Антыбальшавіцкага Блёку Народаў, у складзе якіх была і беларуская група на чале з А. Плескачэўскім — прадстаўніком БККА ў АБН. Першы раз у гісторыі беларускія сьцягі разьвяваліся па вуліцах амэрыканскае сталіцы.

* * *

11 красавіка 1970 г. харваты сьвяткавалі ў Нью Ёрку свой Дзень Незалежнасьці. З прывітальным словам на сьвяточнай Акадэміі выступаў ад беларусаў прэзыдэнт БККА сп. І. Касяк.

**З жыцьця Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня Нью Ёрку**

30 сакавіка 1969 г. Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне супольна з Беларускім Кангрэсавым Камітэтам Амэрыкі ладзіла ўрачыстую Акадэмію з нагоды абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25 Сакавіка 1918 г. Акадэмія адбылася ў залі Грэцкага Катэдральнага Сабору ў Нью Ёрку.

* * *

31 жніўня 1969 г. Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ўзяло актыўны ўдзел у адзначэньні 25-цігодзьдзя Другога Ўсебеларускага Кангрэсу, якое адбылося ў залі рэсорту Бэлэр-Менск у Глен Спэй, Нью Ёрк.

* * *

16 лістапада 1969 г. адбылася ўрачыстая Акадэмія з нагоды 49-х угодкаў збройнага паўстаньня Случчыны. Акадэмію ладзілі Беларуска-Амэрыканскія Вэтэраны сумесна з Беларуска-Амэрыканскім Аб'еднаньнем. Перад Акадэміяй адбылася ўрачыстая Багаслужба за ўпакой палеглых Беларускіх Герояў.

* * *

28 сьнежаня 1969 г. беларускае грамадзтва Нью Ёрку і ваколіц адзначыла 50 гадоў жыцьця і 25 гадоў грамадзка-палітычнае дзейнасьці сп. Кастуся Мерляка. Імпрэза адбылася ў Прэсбітэрыянскім Грамадзкім Цэнтры: 89-60, 164-я вуліца.

* * *

13 лютага 1970 г. Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне атрымала ліст ад Віцэ-Прэзыдэнта ЗША Сьпіро Эгнью з падзякай Аб'еднаньню і беларускаму грамадзтву за падтрымку ягонае палітыкі ў дачыненьні да дэманстрацыяў і іх падаваньня да ведама, праз тэлевізію і радыё.

* * *

1 сакавіка 1970 г. адбылася супольная гарбатка моладзі, падчас якое абмяркоўваліся пляны новае арганізацыі моладзі.

// //

Рэдакцыйная Калегія: Л. Галяк, А. Даніловіч (галоўны рэдактар), М. Кавыль, І. Касяк, пратапр. а. М. Лапіцкі, Д-р М. Шчорс.

Адрас Рэдакцыі: A. Danilovich, 34 Richter Ave., Milltown, N. J., 08850

Выдавец — Беларускае Выдавецкае Таварыства: Старшыня — Б. Шчорс, Сакратар — Міхась Сенька, Скарбнік — Міхась Палюховіч.

Printed by The Whiteruthenian Press * 452 South Avenue, Syracuse, N.Y., 13204

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

## *BYELORUSSIAN THOUGHT*

THE BYELORUSSIAN OUTLOOK
ON
SOCIETY, POLITICS, LITERATURE AND ARTS

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСАПІС

№ 12--13

1969—1970

НЬЮ-ЁРК — САЎТ РЫВЭР